© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 6 (2178) Год XLIII Беласток 8 лютага 1998 г. Цана 1 зл.



*Каплічка каля Гайнаўкі.* Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

## У нумары



Праз паўночную частку Белавежскай пушчы імчаць цягнікі з атрутай. У Чаромсе ўміраюць маладыя людзі.

# Шлях смерці

Аляксей Мароз

**— Расшчыльненне толькі адной цыстэрны з хлорам выклікае смерць усіх людзей на тэрыторыі да трох кіламетраў ад катастрофы, а прастора атручэнняў да дзесяці кіламетраў...**

Так паясняе Міраслаў Навіцкі, зараз пенсіянер, раней пажарнік чыгуначнай станцыі ў Чаромсе. — Штодзень цераз Семяноўку, Гайнаўку і Чаромху праязджаюць два-тры цягнікі з цыстэрнамі, у якіх перавозяцца розныя таксічныя хімічныя рэчывы.

**У варшаўскіх кабінетах**

паўсталі дзве супрацьлеглыя канцэпцыі, якія тычацца Белавежскай пушчы і прыпушчанскіх жыхароў. Міністэрства аховы асяроддзя і экалагічныя арганізацыі клапоцяцца аб будучыні нашай пушчы і яе ахове. Ва ўсёй Еўропе называюць яе лёгкімі старога кантынента і яго адзіным натуральным лясным масівам. Іншай думкі прытрымліваюцца ўлады нашай чыгункі і ўраднікі Міністэрства транспарту. Праз паўночную частку пушчы пусцілі яны цягнікі, якія масава вязуць атрутныя хімікаты.

— У нас многія называюць іх

**цягнікамі смерці**

— воблік другога размоўцы напоўнены турботай. Пажылы мужчына просіць, каб не называць яго прозвішча. — Я ж яшчэ працую на чыгунцы, не хачу страціць працу. Жыву недалёка ад чыгункі, дык бачу, што возяць. Ноччу ў дзве-тры гадзіны суне нейкі цягнік з цыстэрнамі. Вядома, не хочуць, каб людзі бачылі. Калі едуць днём, відаць нейкія надпісы, але я ў гэтым не разбіраюся. Спытайце ў пажарнікаў.

Пра небяспечны транспарт у нашым рэгіёне пачалі пісаць пасля аварыі 9 сакавіка 1989 г. у Беластоку. Зваліўся тады з пуці састаў цыстэрнаў з хлорам, арганізавалі масавую эвакуацыю жыхароў. Калі б дайшло да расшчыльнення цыстэрнаў, загінула б шмат людзей.

— Погляды Таварыства аховы Белавежскай пушчы, якога членам я з'яўляюся, вядомыя. Мы за тое, каб па пушчы не ездзілі цягнікі з таксічнымі і хімічнымі матэрыяламі, — рашуча заяўляе Віктар Кабац, гайнаўскі мастак. — Тут жа і Семяноўскае вадасховішча, спалучанае з воднай сістэмай Беластока. Тут Нараўка, Буг, іншыя рэкі. Пад'язныя веткі на семяноўскай станцыі драўляныя, некаторыя перагнілі. Гады таму два звіхнулася там цыстэрна з метанолам. Усё рэчыва перапампоўвалі ў другую цыстэрну.

**Што было б**

калі б тая атрута вылілася? Што было б з Семяноўкай і яе жыхарамі? — уздыхае мой размоўца. — Людзі не ведаюць, што праз Семяноўку і Гайнаўку столькі атруты перавозіцца! Некалькі гадоў таму наша Таварыства супольна з варшаўскімі студэнтамі і гайнаўскімі ліцэістамі паспрабавала інфармаваць мясцовых пра небяспеку. Ніхто не паведамляе жыхароў, што рабіць у выпадку катастрофы. Пісалі мы петыцыі ў Варшаву, але нічога не атрымалася. Ведаю, што некаторыя самаўрады выступілі за абмежаванне таксічнага транспарту.

**Улады чыгункі**

не хочуць інфармаваць пра колькасць небяспечных матэрыялаў, якія перавозяцца ад станцыі Семяноўка. Адмовіліся паведаміць пра статыстыку за апошнія гады. Рабочыя сказалі, што прыблізная колькасць цягнікоў з хімічнымі і таксічнымі рэчывамі не памяншаецца і ў апошні час. У Чаромсе быў зроблены спісак небяспечных матэрыялаў, якія былі перавезены праз станцыю за пяць месяцаў ад пачатку студзеня да кастрычніка 1994 года (4581 вагон небяспечных рэчываў, у тым ліку 2900 тон хлору і 1462 тоны фенолу). Гэтая жахлівая статыстыка дазваляе ўявіць сабе, якая пагроза катаклізму на Гайнаўшчыне.

— У нас у Семяноўцы здаралася, што нешта смярдзела з цыстэрнаў, якія стаялі на станцыі. Але ехалі яны далей,

[*працяг* ☞ 3]

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Мы прачыталі

*Do popularnych form poniżania młodego żołnierza należy rozkaz naśladowania zwierząt i ptaków. Wówczas każe mu się uderzać głową o ścianę, wisieć na poręczy łóżka, uderzać głową w futrynę, robić małpie miny, wydawać różne okrzyki, stać na jednej nodze, skakać jak żaba. Osławiane jest urządzanie przez dziadków dyskotek podczas których młodzi żołnierze muszą udawać, że bawią się na dyskotece: na parkiecie tańczą parami, z tym, że kilku musi się przebierać za dziewczyny. Za dobrą zabawę uważany jest zwyczaj nazywany „grającą szafą". Młodego zamyka się w szafie albo wsadza głowę do metalowej szafki. Kiedy „dziadek" wrzuca monetę, „kot" musi śpiewać ulubioną piosenkę rezerwisty. „Fala" przybrała już wymiar patologiczny. Poniżanie żołnierzy czyni z nich osobników oczekujących rewanżu na następnych rocznikach wcielanych do wojska.*

*Kurier Poranny, nr 18*

* * *

*Trwa właśnie akcja wykreślania z partyjnej ewidencji martwych dusz, ugrupowań dziwacznych, śmiesznych, głupich, czasami szkodliwych, niekiedy może i szlachetnych. Pod koniec 1997 r. w Polsce istniało 360 partii politycznych. Z całą powagą zostały zarejestrowane twory w rodzaju: Liga Szyderców, Polska Partia Rycerska, Partia Umiejętności Postępowania Aksjologicznego, Metawerystyczna Partia Sztuki i Myśli Twórczej, Partia Sukcesu i Uśmiechu, Partia Polaków Pochodzenia Szlacheckiego, Partia Pracy, Godnego Życia i Wypoczynku, Partia Inicjatyw Autentycznie Społecznych i Twórczych, Partia Przetrwania, Polska Partia Królewskiej Pomocy Człowiekowi. Nie zabrakło Partii N., Partii F., i Partii Wulkan. Trudno także nie podziwiać animatorów Prywatnej Partii Obywateli Świata, Partii Ludzi dla Człowieka i wreszcie tak potrzebnej Partii Ludzi Trzeźwych.*

*Polityka, nr 4*

* * *

*Беларуская апазіцыя падрыхтавала план дзяржаўнага пераВароту, на здзяйсненне якога апазіцыянеры просяць у заходніх краінаў 32 мільёны долараў. Прэзідэнт Лукашэнка робіць аднак выгляд, быццам нічога не баіцца. Дэкрэт аб барацьбе з тэрарызмам ужо падрыхтаваны.*

*Навіны — Свабода, н-р 1*

Толькі адкуль узяць у Беларусі тэрарыстаў. Пераапрануць хлопцаў з КДБ?

* * *

*Экс-лідэры беларускае палітычнае эстрады Сямён Шарэцкі з вядомым гуртам — Вярхоўны Савет, аб'ехалі амаль усю Еўропу і яскрава адыгралі варыяцыю на тэму інтэлігентнасці свае кампаніі. Некалькі гарластых салістаў (Ганчар — тэнар, Шчукін — барытон, Калякін — бас) пры падтрымцы сваіх вакальна-інструментальных фракцыяў выдатна паказалі спектакль „Последняя осень". Аднак на Беларусі так і не змаглі прызнацца самі сабе ў тым, што іхні Вярхоўны Савет існуе, што ён не прывід, які бадзяецца па Еўропе — Клініка, — заўважыў Зянон Пазьняк.*

*

*Тымчасам П...рэзідэнт праводзіць сваю палітыку не менш паслядоўна, чым дэпутацкія ганьбуны. За дэкрэтам „аб мітынгах і дэманстрацыях" лагічна наследаваў крыважэрны „закон аб друку", пасля — зусім ужо берыеўскі „пра грамадзянства Беларусі". Кіруючая хунта гатовая забараніць усялякую свабоду. Рыгоравіч настолькі захоплены дранцвеннем сваёй дыктатарскай сістэмы, што проста мусіць абараняць беларускі запаведнік ад палявання хціВага расейскага капіталу. Днямі прыязджаў Чарнамырдзін. Вышчарыўшы зубы, цалаваўся з Рыгоравічам, і маўляў, дзе ж, Саша, твая прыватызацыя? — „Мы ж такія друзья, — атвячаў Саша. — Прыватизацыю уместе з Чубайсам самі сделаете".*

*Маладзёвы веснік, н-р 5*

* * *

*W latach 1993-1994 kościoły sprowadzały — nie płacąc cła — co najmniej 4,5-5 tys. samochodów rocznie. Zwolnienia celne były na tyle atrakcyjne, że zaowocowały powstaniem kilku nowych kościołów i związków wyznaniowych. W ten sposób powstał m.in. Kościół Zjednoczonych Chrześcijan, którego założyciele hurtem zamierzali sprowadzać auta. Przywódca Kościoła Scjentologicznego posiadał 96 Rolls-Royce'ów. W 1993 r. proboszcz parafii katolickiej w Jeleniewie sprowadził bez cła na cele kultowe 22 auta. Nie udało się natomiast wwieźć na cele kultowe jednego z kościołów 800 nowych anten satelitarnych.*

*Polityka, nr 4*

Пагранічнікі не зразумелі, што дзеля ажыццяўлення кантактаў з Небам трэба большай колькасці антэнаў, чым для трансляцыі праграм тэлебачання.

* * *

*Białoruś może liczyć na pomoc Rosji w przełamaniu ostracyzmu społeczności międzynarodowej — zapewnił Jelcyn Łukaszenkę. Zadanie to Rosja rozwiąże jeszcze w tym roku. Jednocześnie obaj prezydenci stwierdzili, że integracja przebiega bardzo dobrze.*

*Rzeczpospolita, nr 19*

Відаць, што Барыс Нікалаевіч і Саша Рыгоравіч вырашылі закончыць у гэтым годзе інтэграцыйны працэс.

* * *

*Пяць месяцаў знаходзяцца за кратамі трое маладых беларускіх патрыётаў — Аляксей Шыдлоўскі (18 гадоў), Вадзім Лабковіч (16 гадоў), Вадзім Кабанчук (22 гады).*

*Права на волю, н-р 1*

Гэта паказвае, што ў Беларусі ёсць толькі трох незалежных апазіцыянераў.

# З мінулага тыдня

**У дзень св. Савы Сербскага** — 25 студзеня — імяніны адзначаў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**. Пасля Літургіі ў Свята-Мікалаеўскім саборы ў Беластоку пажаданні архіепіскапу перадалі прадстаўнікі прэзідэнта РП і міністра нацыянальнай абароны. Віншаванні ўладыку пераслалі таксама камандуючы Варшаўскай ваеннай акругай, генеральны консул Рэспублікі Беларусь, перашаіерархі суседніх Праваслаўных цэркваў і Касцёлаў аб'яднаных у Польскай экуменічнай радзе, прадстаўнікі ваяводскіх і самаўрадавых улад, духавенства і вернікі.

**Прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі** адклікае з пасады пасла РП у Беларусі **Эву Спыхальску**. Прэзідэнт растлумачыў, што гэтае рашэнне было ўзгоднена і здзіўляецца інтэрв'ю, якое спадарыня пасол дала менскаму тыднёвіку „Свободные новости плюс". У згаданым інтэрв'ю Э. Спыхальска пакрытыкавала кадравую палітыку міністра замежных спраў **Баніслава Герэмка**, які патрабаваў адклікаць Спыхальску з Менска, ставячы ёй у закід няўмелае кіраванне дыпламатычным прадстаўніцтвам.

**Ежы Гедройц і Рышард Качароўскі** будуць першымі ганаровымі дактарамі Універсітэта ў Беластоку. З прапановай прысвоіць ім званне doctor honoris causa Рада Юрыдычнага аддзялення звярнулася ў Сенат падляшскай Alma Mater. Рэдактар парыжскай „Kultury" і апошні прэзідэнт Рэчы Паспалітай у эміграцыі (дарэчы, ураджэнец Беластока) выдатна пасадзейнічалі ажыццяўленню ідэі стварэння самастойнай вышэйшай навучальнай установы ў Беластоку.

**Аляксандр Пупейка**, беларускі бізнесмен, які 12 снежня 1997 года быў у Варшаве арыштаваны і сядзеў у дэпартацыйным ізалятары, 21 студзеня г.г. выйшаў на волю. Беларуская пракуратура абвінавачвае яго ў незаконным атрыманні банкаўскага крэдыту. Пупейка лічыць абвінавачванні палітычнай помстай пануючага ў Беларусі рэжыму. Ваяводская пракуратура ў Варшаве вызваліла Пупейку з арышту пад падпіску аб нявыездзе пасля таго, як паручылася за яго журналістка **Галіна Бартнюўская**, вядомая з дзейнасці ў праваабарончым Хельсінскім камітэце, а абарона ўнесла ў залог 100 тыс. зл. Пупейка звярнуўся да ўлад з просьбай аказаць яму палітычнае прыстанішча.

**Рэктар** Універсітэта ў Беластоку прафесар **Адам Ямруз** паведаміў журналістам, што ў будучым годзе магчымы будзе падзел гуманітарнага аддзялення, у выніку якога паўсталі б філалагічнае і грамадазнаўчае або гістарычна-філасофскае аддзяленні. У рамках філалагічнага аддзялення апынуліся б русістыка і, мабыць, асобная беларусістыка ды англістыка, раманістыка і паланістыка.

**Сейм** адхіліў аўтапапраўку да сёлетняга бюджэту, згодна з якой на мадэрнізацыю польска-беларускага пагранічнага перахода ў **Баброўніках** мела быць прызначана дадаткова 6,666 млн. зл. Такім чынам у дзяржаўным бюджэце прадугледжана на гэтую мэту толькі 2,190 млн. зл. Паводле беластоцкага парламентарыя **Кшыштофа Юргеля**, існуе яшчэ магчымасць атрымаць дадатковыя грошы на завяршэнне інвестыцыі з мэтавага рэзерву, прызначанага для фінансавання пагранпераходаў (45 млн. зл.).

**10 млн. долараў** прызначыла Польшча для забеспячэння разбуранага атамнага рэактара на Чарнобыльскай АЭС (Украіна патрабуе на гэта 760 млн. дол.). Суседская фінансавая дапамога мае на мэце таксама ахову жыхароў усходняй Польшчы ад наступстваў радыяцыі.

# Весткі з Беларусі

**Захады беларускага МЗС**

У першай палавіне лютага гэтага года беларускі бок гатовы пачаць перамовы з Міністэрствам замежных спраў Польшчы па двух ключавых пытаннях двухбаковых адносін. Размова ідзе аб узгадненні і падрыхтоўцы да падпісання праекта беларуска-польскіх дагавораў аб бязвізавых паездках грамадзян і аб рэадмісіі. Прапанова пачатку перамоваў па гэтых пытаннях была ўнесена беларускім бокам у час візіту ў Варшаву начальніка консульскага ўпраўлення МЗС Міхаіла Аляксеічыка. У сувязі са складанай сітуацыяй, што ўзнікла на беларуска-польскай граніцы ў выніку ўвядзення ў дзеянне польскім бокам закону аб іншаземцах МЗС Беларусі зрабіла шэраг захадаў дзеля ўрэгулявання спрэчных пытанняў і недапушчэння такой няўзгодненасці ў будучым. Паводле слоў першага намесніка міністра замежных спраў Сяргея Мартынава, становішча непасрэдна на граніцы цяпер нармалізуецца.

**Місія МВФ у Менску**

У сярэдзіне лютага Менск наведае місія Міжнароднага валютнага фонду. Мэта прыезду чарговай місіі МВФ — вывучэнне развіцця сітуацыі ў эканоміцы краіны, а таксама працяг дыялогу па эканамічнай палітыцы з кіраўніком урада, старшынёй праўлення Нацыянальнага банка і краўнікамі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў краіны. У ходзе сустрэч будуць абмеркаваны шляхі ўмацавання макраэканамічнай стабілізацыі і паскарэння структурнай рэформы ў 1998 годзе.

**Адраджэнне Завосся**

На Брэстчыне аднаўляецца родавая сядзіба Адама Міцкевіча. Ля вёскі Завоссе Баранавіцкага раёна пастаўлены ўжо дом і гаспадарчыя пабудовы. Будуюцца таксама драўляныя хаты са стрэхамі з чароту. Будзе тут возера і сад. Хутар, які аднаўляюць Беларускае аб'яднанне літаратурных музеяў і Беларуска-польскае прадпрыемства „Рэнаватум", стане найлепшым падарункам да 200-годдзя генія сусветнай паэзіі.

**Гастролі хору імя Цітовіча**

З цікавай гастрольнай паездкі вярнуўся Дзяржаўны акадэмічны народны хор Беларусі імя Цітовіча. Калектыў выступіў на Віцебшчыне з шэрагам канцэртаў, прысвечаных 60-годдзю вобласці, а затым з гэтай жа нагоды ў Менску са справаздачай. У лютым хор адправіцца ў паездку па Гомельшчыне, дзе прыме ўдзел у фестывалі „Пеўчая акадэмія", затым выступіць на ўсяпольскім фестывалі на Беласточчыне „Беларуская песня '98". Зараз хор працуе над вакальна-харэаграфічнай кампазіцыяй „Пінскія велікодныя гульні і ігрышчы".

**Прэзідэнцкі падарунак**

Зорка расейскай эстрады Маша Распуціна атрымала ў падарунак ад прэзідэнта Беларусі тэлевізар беларускай вытворчасці. Каштоўны падарунак і прывітальны адрас спявачцы Аляксандр Лукашэнка ўручыў на сустрэчы творчай інтэлігенцыі Расеі, якая адбылася ў беларускім пасольстве ў Маскве. Гэтых ушанаванняў Маша Распуціна ўдастоілася за выкананне песні „Дзве Русі — дзве сястры". На сустрэчу з прэзідэнтам Беларусі прыйшлі самыя вядомыя майстры мастацтва Расеі. Яны падзякавалі кіраўніку беларускай дзяржавы за тую велізарную ўвагу, якую ён удзяляе развіццю мастацтва ў сваёй краіне і ў прыватнасці правядзенню ў Беларусі міжнароднага фестывалю „Славянскі базар". Артысты, пісьменнікі і кінематаграфісты падтрымалі Лукашэнку ў яго імкненнях да інтэграцыі з іншымі рэспублікамі былога СССР.

**Фальшывыя купюры**

Летась работнікі фінансавых установаў краіны выявілі 346 фальшывых банкнотаў. Найчасцей прадметам падробкі становяцца стадоларавыя купюры ЗША. Іх канфіскавана 156. У 22 выпадках зафіксавана падробка грашовых знакаў Расеі, а несапраўдных беларускіх дзвацатак выяўлена 32. Асноўная маса фальшывых банкнотаў вырабляецца пры дапамозе капіравальнай тэхнікі. Такія падробкі няцяжка выявіць пры ўважлівым аглядзе купюры. Як правіла, друкуюцца яны на звычайнай паперы, на іх дрэнна рэпрадукуюцца мікратэксты, горш перадаюцца колеры дробных дэталей. У той жа час сустракаюцца і суперпадробкі — стадоларавыя купюры. У мінулым годзе было канфіскавана 25 такіх вырабаў.


## Неўзабаве ў „Ніве"

- Першая канферэнцыя Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча—Беларусь.
- Два погляды на асобу Канстанціна Каліноўскага.
- Нацыянальная тоеснасць гайнаўскіх ліцэістаў.




© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Аб экалогіі зімне-вясенняю парою

**У палове студзеня гэтага года, у вельмі цёплы і ветраны дзень сустрэў я на рацэ Арлянцы заўзятых вудзільшчыкаў. Гутару з самым гарачым рыбаком, а таксама грыбніком і галубятнікам, жыхарам Орлі (родам з Элка) Генрыкам ВЕЙСЕМ — шматгадовым майстрам-захавальнікам меліярацыйных збудаванняў.**

*— Ці на рэчцы Арлянцы адчуваецца яшчэ зіма ці ўжо вясна і ці вада ў гэтым годзе моцна выступіць з берагоў?*

— Ужо ў студзені на дрэвах з'явіліся пупышкі. У мінулым годзе ў лютым бачыў я кнігавак, шпакоў і жаўранкаў. Сонца падымаецца штораз вышэй, дзень становіцца даўжэйшы. Яшчэ павінна быць зіма, а ўжо пахне прадвеснем. Людзі кажуць, што трэба спадзявацца халоднага і мокрага лета. Вады ў Арлянцы ў гэтым годзе ўжо не прыбудзе, хіба што выпадзе яшчэ многа снегу або дажджу. Вось гляньце, у рацэ нават палі выступілі на паверхню. Усе меліярацыйныя канавы цяпер сухія. Няма снегу, не будзе і вады. Лёд на рэчцы растаў паволі. Людзі гавораць, што і ў калодзежах малавата вады.

*— А ці ў маразы лавілі вы пад лёдам?*

— На ставы і раку я заходзіў, але каб толькі паглядзець. Затое лавіў мой сын, але нічога не атрымалася.

Нядаўна ў Арлянцы злавіў я некалькі плотак, але ў асноўным прыходжу на раку пасядзець з вудачкай дзве-тры гадзіны для адпачынку.

*— А як выглядала Арлянка дваццацьтрыццаць гадоў таму?*

— Калісьці ніхто на рыбалку далёка не ездзіў. Хапіла пайсці за могілкі, пад Міклашы. Тады рэчка была багатая ў рыбу. Потым правялі меліярацыю, паўбівалі палі, паставілі маты, выпрамілі рэчышча і ў выніку рыбе не было дзе вадзіцца. Найбольш вадзяной фауне пашкодзілі штучныя ўгнаенні і сцёкі, якія з каналізацыі трапляюць у раку. Ракі і некаторыя гатункі рыб



прапалі вокамгненна.

Цяпер, калі закрылі мясны завод ГСу ў Орлі, сітуацыя палепшылася, паколькі адтуль таксама адводзілі сцёкі. Раней купацца было небяспечна, бо можна было набавіцца нейкага дэрматозу.

*— Якія гатункі рыб можна сустрэць у Арлянцы?*

— У гэтую пару рыба трымаецца пры дне — сёння вее вецер і хваля трымаецца на вадзе. Сёлета зімою не было вады і рыба не прыплыла. У Арлянцы водзяцца яшчэ шчупак, акунь, лінь, плотка, карась і пячкур. Пачалі зноў паказвацца ракі, якія жывуць толькі ў чыстай вадзе. Я сам некалькі разоў вылаўліваў ракаў і акунёў у ставе ў Антонаве і выпускаў у Арлянку. Добра было б каб мы самі больш малявак у Арлянку запускалі, тады не трэба было б ездзіць на рыбалку на іншыя рэкі і траціць дадатковыя грошы і час. Цяпер усё дорага каштуе. Таксама і рыбалоўныя снасці.

*— А як вы ацэньваеце стан меліярацыі ў Арлянскай гміне?*

— Працую на меліярацыі тэхнікам-захавальнікам амаль дваццаць гадоў. Нядаўна быў такі час, што ніхто не займаўся чышчэннем меліярацыйных канаваў, у выніку чаго закупорыліся яны балотам і зямлёю. Цяпер зноў сталі прымаць рабочых і справа нармуецца. Я наглядаю тэрыторыю Рудутаў, Вулькі, Спічкаў і Крывой. З вясны абкошваем канавы, чысцім калодзежы і ўстараняем дрэнажныя аварыі. Заробкі ў нас малыя (200—280 зл. у месяц) і працуюць толькі пяць чалавек, якім не пад сілу справіцца з работай на тэрыторыі ўсёй гміны.

*— Як, на вашу думку, можна лепш выкарыстаць прыродныя якасці гміны?*

— У мінулым быў змарнаваны шанц на развіццё турызму ў гміне. Менавіта калісьці з'явілася магчымасць пабудаваць на Арлянцы заліў. Тады не было яшчэ Семяноўскага вадасховішча. Але, на жаль, не згадзіліся на гэта сяляне з Орлі, а потым з Кашалёў. Не пастараўся ажыццявіць гэты план тадышні начальнік гміны і заліў паўстаў, але ў суседняй гміне, у Дубічах-Царкоўных. Цяперашні войт стараўся добраўпарадкаваць месца для купання каля запруды „У бору", але ўсё занясло мулам і нічога не атрымалася. Толькі грошы падаткаплацельшчыкаў змарнаваліся. Орля — прыгожая і здаровая мясцовасць, але для выкарыстання яе натуральнага багацця патрэбна адпаведная інфраструктура, якая патрабуе інвестыцый, а тыя ў сваю чаргу залежаць ад апаратыўнасці мясцовых улад.

**Тэкст і фота Міхала Мінцэвіча**

# Шлях смерці

[1 ☞ працяг]

— успамінае Ян Скепка, ураджэнец Семяноўкі, цяпер жыхар Гайнаўкі. — З людзьмі нічога не здаралася, дык і не было пратэстаў. Восенню пажарнікі з Беластока арганізавалі манеўры на Семяноўскім вадасховішчы. Тады, калі б нешта ўлілося ў вадаём, былі б на месцы. А калі б трэба было прыехаць з Беластока? — хвалюецца спадар Скепка і дадае крыху цішэй: — Кожны жыхар павінен ведаць, што рабіць у выпадку катастрофы.

Калі я вяртаюся дамоў і стаю перад чыгуначным пераездам у Навасадах, уражвае вялікая колькасць цыстэрнаў, якія толькі мільгаюць, а цягнік імчыцца ў бок Гайнаўкі.

— Найчасцей тыя

**цягнікі ходзяць ноччу**

— кажа Уладзімір Трашчотка з Навасад. — Жыву недалёка, то чую. Толькі гудзе, калі сунуцца. Спераду і ззаду пустыя вагоны цягнуць. Едуць хутка, цяжка прачытаць надпісы. Даўней, калі было тут шмат іншага транспарту, апускаліся шлагбаўмы. Мой брат іх абслугоўваў. Пару гадоў таму іх ліквідавалі. Нядаўна вось трактар пад'ехаў пад цягнік! Некаторыя не зважаюць, што перад імі пуці, можа быць небяспечны транспарт — толькі крыху націсне на тармазы і далей! Не хапае часу паглядзець у бакі?!

Зрэдчас у друку паяўляліся артыкулы пра тое, што пажарныя каманды ў нашым рэгёне не вельмі падрыхтаваныя да

**ліквідацыі вынікаў аварыяў**

з таксічнымі і хімічнымі матэрыяламі. А гэтым мелі займацца.

— У студзені 1994 года ў нас у Чаромсе ліквідавалі пажарную каманду, — запрашаючы ў кватэру пачынае размову Міраслаў Навіцкі, актыўны дзеяч прафсаюзаў. — У галоўным наглядалі мы за такімі транспартамі. Была аварыя ў Гайнаўцы, пяць гадоў таму, з цыстэрнаў недалёка пасажырскага вакзала выдувала газ. Іншая аварыя была ў Нараўцы, калі везлі цыстэрны з фенолам, вельмі атрутным рэчывам. Газ выбівала ў паветра. Прыехалі мы з Чаромхі і заканапацілі цыстэрны. А калі хімічныя матэрыялы трапілі ў рэчку Нурчык, амаль тыдзень мы днём і ноччу працавалі, каб усё выцягнуць! — паказвае на дакументацыю, звязаную з працай. — А колькі было звычайных пажараў. І за такую ахвярнасць рашылі ліквідаваць каманду!

У гайнаўскім часопісе „Гасцінец" (май 1995 г.) пісалі, што на працягу 1993 года цераз Семяноўку перавезлі 188 456 тон розных небяспечных матэрыялаў у 5681 вагоне.

— Раней было па-рознаму. Можна было заўважыць, што ехалі цыстэрны з іржавымі клапанамі, а дакументы не паказвалі таго, што было напісана на цыстэрнах, — паведамляе чыгуначнік з Чаромхі. — А вось настаў такі перыяд, што не было пажарнікаў на чыгунцы.

— Пустэчай пачала была страшыць у Чаромсе мясцовая пажарная вартаўнічая вышка, а наіўныя каментарыі наконт ліквідацыі пажарнай каманды не маглі апраўдаць рашэння ў Варшаве, — вяртаюся да размовы са спадаром Навіцкім, які пасля пераходу на пенсію не пакінуў сваіх сяброў, а надалей актыўна прымаў удзел у працы прафсаюзаў і сачыў за хімічным транспартам. Пачаў таксама вандроўку па розных установах сталіцы, каб вярнуць неабходную пажарную каманду. Паказвае пукатыя папкі з прашэннямі: у Найвышэйшую

[працяг ☞ 9]

# Кіпучая мяжа

26 студзеня з нагоды Міжнароднага дня таможніка беластоцкая Мытная ўправа наладзіла прэс-канферэнцыю, на якой яе кіраўніцтва азнаёміла журналістаў з працаю свае ўстановы. Гэтая сустрэча адбылася ў новым будынку пры вуліцы Ацтовай 2, які Управа купіла дзеля паляпшэння ўмоў абслугі гаспадарчых суб'ектаў; будзе тут, напрыклад, аўтамабільная стаянка на 60 грузавікоў. А цэнтральныя ўрачыстасці адбыліся тры дні раней у Міністэрстве фінансаў, якое ад Новага года наглядае за працаю таможнай адміністрацыі. Мясцовымі святкаваннямі будуць балі, м.інш. у Чаромсе і Кузніцы.

За мінулы год беластоцкая Мытная ўправа прынесла дзяржаве амаль 320 мільёнаў злотаў прыходу ад збору таможных належнасцей, што на 30% больш чым год раней. Самая пошліна павялічылася толькі на 5%, бо таможныя стаўкі наогул абніжаюцца. Затое на 65% былі большыя ад мінулагодніх прыходы ад падатку VAT, што адпаслугоўвае пераход Польшчы на агульнаеўрапейскія прынцыпы. У 15 разоў паменшаў акцызны падатак з прычыны адказу гаспадарчых суб'ектаў ад імпарту тавараў ахопленых акцызам. І ў пяць разоў павялічыліся штрафы ў выніку дзейнасці таможнікаў на нелегальных аўтамабільных біржах. Апрача згаданай сумы таможнікі спагналі амаль трыццаць мільёнаў злотаў дарожных аплатаў на карысць Генеральнай дырэкцыі публічных дарог у Варшаве.

Цікавая таксама статыстыка выкрытай кантрабанды. Больш чым у два разы паменшала колькасць папяросаў, у тры з паловаю раза гарэлкі і ў два разы спірту; вынікае гэта са зраўноўвання іх цэнаў у суседніх краінах. Затое вырасла колькасць выкрытай кантрабанды самаходаў (у пяць разоў), кампактных дыскаў (у два з паловаю раза) і электронных гульняў (у трынаццаць разоў!); вось у студзені г.г. на пагранпераходзе ў Агародніках выкрыта ў аднаго „турыста" дзве тысячы кампактных дыскаў. Кампактныя дыскі знішчаюцца, а іншыя вырабы ў прадугледжаным законам парадку прадаюцца: у мінулым годзе прададзены былі 162 самаходы за больш чым мільён злотаў, тытунёвыя вырабы за звыш паўтара мільёна злотаў, алкагольныя вырабы за сорак адзін з лішкам тысяч і іншыя тавары за амаль дзвесце тысяч. 28 875 літраў спірту было перададзены неадплатна ў шпіталі трох паўночна-ўсходніх ваяводстваў. Кантрабанда іконаў утрымоўваецца на пастаянным узроўні і за мінулы год Управа здасць іх ва ўстановы захавання помнікаў больш за сто штук. Варта адзначыць яшчэ адзін факт: па колькасці ўзбуджаных супраць кантрабандыстаў спраў беластоцкая Мытная ўправа апынулася на трэцім месцы ў краіне (на агульны лік 19) за Жэпінам і Тарэспалем, а паколькі ў полі зроку ўпраў у Тарэспалі і Беластоку знаходзіцца польска-беларуская мяжа, сведчыць гэта пра кіпенне кантрабанды менавіта на ёй.

Дзейнасць нелегальных аўтамабільных біржаў, галоўная з якіх у Агародніках, пярэчыць польскім законам, паводле якіх да гандлёвага абароту на тэрыторыі краіны дапушчаны толькі тыя тавары, за якія заплачана таможная належнасць. Дзялкі, якія такім чынам прадавалі самаходы, увозілі іх на тэрыторыю Польшчы без аплаты пошліны — транзітам, і перад вывазам намагаліся прадаць іх. Большасць пакупнікоў гэтага „таннага" тавару складалі грамадзяне Беларусі, і ім галоўным чынам прыйшлося плаціць штрафы за недазволены польскімі законамі гандаль, бо прадаўшчыкі хутка „змываліся". Таможная ўправа наладзіла кантакт з Консульствам РБ у Беластоку, у сродках масавай інфармацыі Беларусі было прадстаўлена польскае заканадаўства ў гэтай справе і аб'ём гандлю на біржы ў Агародніках за мінулы год паменшаў у пяць разоў; цяпер гэтыя біржы намагаюцца перанесціся ўглыб Польшчы або ў Летуву.

Змаганне з кантрабандыстамі спараджае ў таможнікаў і спакусы, і калі ў якога на гэты конт слабы характар, той мусіць развітацца са службаю, а да таго ж яго справа трапляе ў пракуратуру. У мінулым годзе вызвалена ад службы больш дзесяці чалавек, а ў выніку разглядаецца ў судах 6-7 спраў. Сумленныя працаўнікі атрымоўваюць прэміі велічынёю ў некалькі тысяч злотаў, бо і праца іх напружаная; сярод людзей, з якімі маюць дачыненне мытнікі, бываюць і высокапастаўленыя. Для прыкладу, у мінулым годзе з'явіўся ў беластоцкую Управу высокі ўсходні чыноўнік у мундзіры, аднак выходзіў моцна расчараваны.

Службовая прагматыка таможнікаў прадугледжвае ветлівае прывітанне падарожніка, і ветлівае развітанне. Нават пасля выяўлення кантрабанды мытнік жадае кантрабандысту „Шчаслівай дарогі"!

**Аляксандр Вярбіцкі**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Мінская панарама

**Жадаюць прыемнага падарожжа**

У палове студзеня польска-беларускую мяжу перасякалася так сама як граніцы ў заходняй Еўропе. Паставата было ў цягніку і магчыма таму пагранічныя службы з пашанай ставіліся да пасажыраў, дзякуючы якім маюць яны працу. Упершыню бачыў я беларускага таможніка ў выглядзе прыгожай жанчыны, якая размаўляла на беларускай мове, не цікавілася ні зместам кніжак, якія я меў пры сабе, ні колькасцю долараў, і якая, паставіўшы пячатку на дэкларацыі, нават пажадала мне прыемнага падарожжа.

**Горад прыгожых жанчын і таннай гарэлкі**

У апошніх гадах Мінск, дзякуючы прэзідэнту Лукашэнку, стаў адным з найбольш вядомых гарадоў Еўропы. Беларусь цяпер амаль пастаянна прысутнічае ва ўсіх сродках масавай інфармацыі. Тое што, аднак, найбольш кідаецца ў вочы пасля прыбыцця ў Мінск, гэта незвычайная колькасць прыгожых дзяўчат, прытым надрэнна апранутых. Гэтыя кветкі, на жаль, хутка адцвітаюць, ператвараючыся ў „советских женщин" з усімі прыкметамі гэтага стану.

Імкненне да вонкавай элегантнасці большасці насельніцтва сталіцы Беларусі настолькі відавочнае, што робіць яно ўражанне грамадства багацеяў. Здаецца, аднак, што ў пануючых грамадскіх і псіхалагічных умовах элегантнасць — гэта форма выяўлення свайго „я". Чалавек, які не мае шанцаў мець свой дом, кватэру, аўтамабіль, на працу ездзіць на тралейбусе ці на метро, усе ашчаднасці накіроўвае на куплю вопраткі. У іерархізаванай сістэме вонкавы выгляд указвае на грамадскую пазіцыю, прэстыж асобы. Асаблівым прыкладам савецкай эстэтыкі з'яўляюцца гіганцкія калоны будынкаў у цэнтры горада. Гэта архітэктура з іншага кутка свету, іншай традыцыі, ідэалогіі. Серп, молат і чырвоная зорка не маюць жа ніякіх сувязяў з антычнай карынфскай арнаментоўкай. Знішчыўшы арыгінальную беларускую архітэктуру, саветы за вялікія сродкі ўпрыгожылі горад усялякімі дзівацтвамі, будынкамі неакрэсленых стыляў, помнікамі катаў мясцовага насельніцтва. Дзесяткамі гадоў стваралі яны грамадства, якое цяпер не адчувае патрэбы мець нічога свайго — уласнай думкі, этыкі, гісторыі, традыцыі, мовы. Людзі пакорліва ўспрымаюць тое, што запрапануе ім улада.



*Аб чым думае дзядзька Якуб?*

Афіцыйна грамадзянін Беларусі зарабляе 50-70 долараў у месяц. Пенсіянеры атрымліваюць 20-40 дол. Цэны, аднак, вышэйшыя тут чым у Польшчы на 20-30 працэнтаў. Сала, напрыклад, даражэйшае ў 5 разоў, бульба — у 6, хлеб і малако каштуюць прыблізна столькі сама. Выключэннем з'яўляецца цана мясцовых гарэлак. Найтанейшая каштуе адзін долар, за два можна купіць сапраўды высакаякасную „Пшанічную". Замежныя алкагольныя напіткі нашмат даражэйшыя чым у Польшчы. Балгарскае віно каштуе, напрыклад, 7-8 долараў, столькі ж — кілаграм каўбасы. Ніхто, аднак, не мог мне растлумачыць як можна пражыць за 50 долараў у месяц, а прытым прыгожа апранацца. Праўда, жыхары Беларусі, пакуль што, маюць амаль дармовае карыстанне кватэрамі, сімвалічную аплату за тэлефон і ўсе камунальныя паслугі.

Даволі цяжка таксама зразумець іншыя элементы беларускай эканомікі. У прыватных рэстаранах, дзе цэны вышэйшыя ў 3-4 разы чым у беластоцкіх і дзе амаль цалкам пуста, афіцыянты робяць уражанне, што госці ім зусім непатрэбныя. У кафэ-барах, што ў цэнтры горада, за чай у пластмасавым кубачку жадаюць столькі ж, што ў рэстаране варшаўскага „Марыёта". Мінскія калегі тлумачылі мне, што ў цэнтры сталіцы ўсе гастранамічныя паслугі падзелены паміж прэзідэнцкія і мафійныя фірмы, няма там сапраўднай прыватнай канкурэнцыі. Таму не варта шукаць ніякай лагічнай сувязі паміж цэнамі і характарам паслугаў.

**Краіна вахцёраў**

Оруэлаўскі Вялікі Брат (*Год 1984*) быў прысутны ў доме, ложку, душы кожнага чалавека. Беларускі Вялікі Брат таксама спадарожнічае грамадзянам краіны ў кожным месцы, дзе яны знаходзяцца. Пра Вялікага Брата гавораць выключна шэптам. Прытым кожны перакананы, што і так яго нехта падслухоўвае. Паралізуючы страх, пачуццё бяссільнасці і сапраўдная беднасць зламалі хрыбет інтэлігенцыі. Паважаныя прафесары, літаратары, мастакі, дзеячы вярнуліся ў рэчышча, якім плылі яны раней дзесяткамі гадоў. Выключэннем у гэтым плане з'яўляюцца такія маральныя аўтарытэты як Васіль Быкаў ці Ніл Гілевіч. Памяркоўную апазіцыйнасць праяўляюць таксама дзеячы ўсялякіх грамадскіх арганізацый, якія сябруюць з замежнымі фондамі. Яны проста вымушаны часам заяўляць пра сваю заклапочанасць лёсам беларускай дэмакратыі.

Прыгнятальная большасць грамадзян Беларусі звыклася з прысутнасцю, амаль у кожным месцы, усялякіх вартавых — ва уніформах і без уніформаў. Немагчыма ўвайсці ў бібліятэку не атрымаўшы некалькіх пропускаў. Раней трэба запоўніць некалькі бланкаў з усялякімі данымі пра сябе, паказаць адпаведныя дакументы, якія пацвярджаюць праўдзівасць уласнаручна напісанага. Пасля можам увайсці ў залу для чытачоў і атрымаць жаданую кніжку ці, напрыклад, мінулагоднюю падшыўку „Советской Белоруссин". На другі дзень, зараз пры ўваходзе, трэба нанава даказваць „женщине", што маем дакументы, якія дазваляюць чытаць кніжкі. У Доме друку, дзе знаходзяцца рэдакцыі большасці дзяржаўных газет, нават калі ідзеш па запрашэнні знаёмага журналіста міліцыянт пакуль выпіша пропуск, дакладна правярае пашпарт. Другі, які стаіць чатыры метры далей, яшчэ раз правярае пашпарт і, толькі што выпісаны, пропуск, пытае, што знаходзіцца ў маёй сумцы.

Сотні тысяч людзей у Беларусі займаюцца ўсялякім кантролем, выпісваннем дазволаў на праход праз калідор, сходы. Гэта звычайна прыхаванае беспрацоўе. Маладыя, здараненныя мужыкі, якія некалькі гадзін стаяць у адным месцы, звяраюць, шукаюць усялякіх спосабаў, каб паказаць сваю ўладу і неабходнасць стаяць на вызначаным ім месцы. Дарэчы, кожны на іх месцы рэагаваў бы падобна. Выклікае гэта нейкі кашмар, які ўсе тут ўспрымаюць як нармальнасць.

*(заканчэнне будзе)*

**Яўген Мірановіч**

# Самае важнае, што мы пазнаёміліся

**Гутарка з Юзафам МАЗАЛЕЎСКІМ, паслом у Сейм РП ад АВС, старшынёй беластоцкай „Салідарнасці".**

***— Ваша знаёмства з „Нівай" пачалося не найлепш — ад праслаўтай бітвы на чырвоную фарбу.***

— Што ж, было... З цягам часу ўсё здарэнне з фарбай набывае гумарыстычнае значэнне. Самае важнае, што мы пазнаёміліся і пачалі з сабой гаварыць.

***— У Бельску Вы атрымалі ад сваіх прыхільнікаў мятлу. Як Вы самі гэта разумееце?***

— Сапраўды, мятла — гэта красамоўны сімвал. Па-рознаму можна яго тлумачыць, але для мяне ён адназначны. Я сам падчас выбарчай кампаніі ніколі не выказваўся, што ў выпадку перамогі, калі я і мае калегі ўвойдзем у парламент, калі буду мець голас у кадравых справах у ваяводстве, буду дзейнічаць з дапамогай мятлы.

Думаю, што ўсе грамадзяне нашага ваяводства і краіны разумеюць, што гэта такое дэмакратычныя выбары. Адзін бок перамагае, другі церпіць паражэнне. Калі прыходзіць да змены бакоў пры ўладзе, ясна, што наступаюць кадравыя змены. Я магу запэўніць, што тут не будзе нейкай чысткі, бо мятла, вядома, змятае ўсё, і вартаснае, і нявартаснае. Будзем адказна ставіцца да гэтага пытання. Нас практычна не будзе цікавіць, хто якога веравызнання, а нават якіх палітычных поглядаў. Прыярытэтны ў наборы новых кадраў будзе малады ўзрост. Хочам зрабіць стаўку на маладых і адукаваных, бо ў маладых будучыня.

***— Вы запратэставалі супраць прызначэння прэм'ер-міністрам Цімашэвічам грошай на Супрасль. Чаму?***

— Гэта вельмі цяжкае пытанне. Сапраўды, я запратэставаў і перадаў інфармацыю прэм'ер-міністру Бузэку. Я не здзіўляюся. Я — жыхар гэтага ваяводства, дасканала ведаю тутэйшае становішча і ведаю, што трэба падтрымоўваць меншасці або іншыя веравызнанні з бюджэту дзяржавы. Тым не менш спосаб прызначэння дадатковых сродкаў уступаючым прэм'ер-міністрам быў неўспрымальны.

Я пытаюся, чаму прэм'ер Цімашэвіч не прызначыў гэтыя сродкі год таму. Быў тады прэм'ер-міністрам і мог тыя сродкі прызначыць. Ані я, ані ніхто іншы ў той час напэўна не пратэставаў бы. Паўтараю, прэм'ер Цімашэвіч адыходзіў, яго кабінет кончыў свой тэрмін і ў такі момант пайшлі тыя сродкі.

Таму я запратэставаў не столькі супраць таго, на што пайшлі тыя сродкі, колькі супраць таго, якім чынам гэта было зроблена.

***— Што вы думаеце аб новых правілах руху між Польшчай і Беларуссю. Яны ж ствараюць немалыя цяжкасці ў наведванні сямей, турызме, пра гандаль ужо не гаворачы...***

— Я думаю, што былі ў нейкім сэнсе занядбанні з боку польскага ўрада, хаця гэты бок быў вядомы намнога раней і абодва бакі маглі падрыхтавацца да гэтай праблемы. Мы заўсёды падымаем трывогу, калі на мяжы стаяць чэргі, або наступае блакада мяжы ў выніку нейкай навелізацыі закона. Таму думаю, што мы павінны ставіцца да гэтай праблемы спакойна. Безумоўна, урад знойдзе яе вырашэнне, шляхам адпаведнай інтэрпрэтацыі закона або нават змены адпаведнага распараджэння. Я сабе не ўяўляю, каб у дэмакратычнай дзяржаве грамадзян адной ці другой дзяржавы вярталі з мяжы толькі таму, што не выпаўнілі нейкіх адміністрацыйных фармальнасцяў. З гэтым нельга пагадзіцца. Урад павінен стварыць спрыяльныя варункі для грамадзян, якія хочуць падарожнічаць між абедзвюма дзяржавамі.

У нашым рэгіёне выступае яшчэ адна праблема. Вось учора я прымаў дэлегацыю купцоў з вуліцы Кавалерыйскай. Вядома, шэраг асоб жыве з г.зв. турызму беларускіх або літоўскіх грамадзян. Згаданыя правілы спрацавалі так, што на нейкі час (хачу быць аптымістам) замёр базар па вуліцы Кавалерыйскай. Гэта можа мець сур'ёзныя паслядоўнасці для гаспадаркі нашага ваяводства. Я не назваў бы гэтага заламаннем, але ішла пэўная вытворчасць разлічаная на ўсходні рынак.

Я думаю, што ўрад павінен знайсці вырашэнне як найхутчэй.

***— Апошні прыклад з увядзеннем зменаў, якія нібыта былі ўсім загадзя вядомыя, а ў сапраўднасці аказалася, што ніхто да іх не падрыхтаваны, выклікаюць тэму польска-беларускіх адносін наогул. Яны нядрэнныя, але і добрымі іх не назавеш. У чым прычына?***

— Я думаю, што прычына добра вядомая. Магчыма не прыдбаю ў гэтым месцы папулярнасці ў чытачоў „Нівы", але вядома, што цяперашняя ўрадавая кааліцыя здаўна рашуча выступала супраць палітыкі прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, які так, а не інакш, паступае з унутранымі дэмакратычнымі і апазіцыйнымі структурамі. Мы з гэтым не згаджаліся і не будзем згаджацца. Гэты факт мае істотнае значэнне.

Другая прычына — на мой погляд — не так як трэба працаваў польскі пасол у Беларусі. Такая асоба павінна садзейнічаць нармалізацыі становішча. А мы ж ведаем, як функцыянавала пасольства, як працавала сп. Эва Спыхальска. Таму спадзяюся, што неўзабаве наступіць кадравая змена і пападзе там адпаведная асоба.

Для нас, як грамадзян і суседзяў, сама важнае, каб мы маглі нармальна супрацоўнічаць, нармальна перасякаць мяжу і сустракацца.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Алег Латышонак**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Беларуская песня наведала Кляшчэлі

У сонечную нядзелю 25 студзеня 1998 года жыхары Кляшчэляў адразу з царквы падаліся ў Падставовую школу. Адбываліся там раённыя элімінацыі (для Гайнаўшчыны) V Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня '98". Мерапрыемства адкрыў бурмістр Аляксандр Сяліцкі, які не скрываў задавальнення, што менавіта ў Кляшчэлях будуць святкаваць беларускую песню.

— А чого ж то тягнутіся до Клешчэлюў, колі у Гайнуўці усэ робілі. І блізко было і вэльмі зручно, — пракаментаваў спявак з Гайнаўшчыны. — То ў Гайнуўці туолькі білорускіх зэсполуў, а тут з города Клешчэлі ніякі і нэ выступае.

Калі старшыня БГКТ Янка Сычэўскі перадаваў прывітанні ад былога прэм'ер-міністра Владзімежа Цімашэвіча, публіка адрэагавала гарачымі воплескамі. Найбольшы раённы агляд (каля трыццаці выканаўчых адзінак — М. А.), як заявілі арганізатары, пачаўся з фальклору. Першымі выступалі спявачкі са Збуча. Песні пра жыта і грэчанікі выклікалі ў старэйшых гледачоў успаміны з дзяцінства.

— О колісь, то трэба было попожаті, — адазвалася сівенькая бабулька.

Вядучая канцэрт настаўніца беларускай мовы Ірэна Тамашук запрасіла на сцэну жанчын з Курашава і першае хваляванне гаспадароў мінула. Аўтэнтычны і апрацаваны фальклор царствавау на сцэне, як у кожным аглядзе „Беларускай песні". Калектывы, вядомыя з фэстаў, уваходзілі на сцэну ў сваіх каляровых уборах. Апрача старадаўніх песень былі і прымаўкі, і пажаданні. Аднак, звычайнаму гледачу цяжка было вылучыць найлепшых у паасобных відах песень. Камісія зрабіла, як заўсёды, столькі катэгорыяў і груп, што амаль усім выканаўцам можна было даць нейкае месца. У катэгорыі аўтэнтычнага фальклору найлепшымі, паводле журы, былі: Антаніна Сідарук з Дабрывады, Еўдакія Маркевіч з Дашоў, вядомыя „Любашкі", „Каліна", „Арэшкі" і „Крыўчанкі". У катэгорыі апрацаванага фальклору першымі месцамі абдзялілі моладзь з „Чарамшыны", мужчын з ГДК, Чыжоў і хор ГДК.


*Іаанна Масайла (на першым плане).*

Сярод фальклорных выступленняў рашуча вылучылася „Чарамшына". Гэты адзіны ў сваім родзе маладзёжны калектыў з непаўторнымі інструментамі (цымбалы, балалайка, акардэон, гітара, бубен, флейта) традыцыйна ўжо пакінуў самыя моцныя ўражанні. Звычайная вопратка, а не стылізаваныя ўборы, зрабіла іх выступленне натуральным. Звонкія галасы і выдатны акампанемент выклікалі ў публікі захапленне. Калі праспявалі песні „Вяне ружа" і „Еxаў Ясь", гледачы не мелі сумнення, што стануць яны пераможцамі ў сваёй катэгорыі. Як заўсёды, вялікім прафесіяналізмам адзначыліся выступленні мужчын, жанчын і хору з Гайнаўскага дома культуры. Паказалі, што на гэты раз яны падрыхтаваны не горш чым у мінулых гадах.

Сёлета мала было выканаўцаў з сучаснай песняй, а яна заўсёды вельмі цікавіць публіку. У катэгорыі салістаў першага месца дабілася Іаанна Масайла з Гайнаўскага белліцэя і трэба адзначыць, што на гэтае вылучэнне яна сапраўды заслужыла. Выдатны голас і акцёрства на сцэне выклікалі прыхільнасць не толькі ў журы, але і ва ўсёй публікі. У Кляшчэлях праспявала яна шэсць песень. У дуэце з Евай Якачук заняла другое месца, а разам з вакальна-інструментальным калектывам з Беларускага ліцэя таксама апынулася на другім месцы. Прыгожыя песні, маладосць і ўсмешкі на тварах гайнаўскіх ліцэістаў успрымаліся вельмі цёпла.

Выступленні зацягнуліся і толькі вечарком спевакі раз'язджаліся дамоў.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

## Конкурс завершаны

26 студзеня г.г. у нашай рэдакцыі былі падведзены вынікі конкурсу на журналіста „Нівы". Пераможцам у ім стаў вядомы ўжо чытачу са старонак нашай газеты **Аляксей Мароз**. Ён жа будзе прыняты ў нашу рэдакцыю ў якасці штатнага журналіста. Рэпартаж А. Мароза „Шлях смерці" — найвышэй ацэнены камісіяй матэрыял — друкуецца ў гэтым нумары з першай старонкі...

Журналісцкі конкурс — прыгадаю — быў аб'яўлены ў № 52 газеты ад 26.12.1997 г., як вынік пастановы Праграмнай рады Тыднёвіка „Ніва" — нашага выдаўца. Ад удзельнікаў патрабаваліся тры матэрыялы на актуальныя тэмы звязаныя з Беласточчынай — рэпартаж, фельетон і вестка. Тэрмін надсылання матэрыялаў мінуў 15 студзеня г.г. На конкурс свае тэксты даслалі: Галіна Аўсянюк, Яўген Бялькевіч, Яўген Вапа, Аляксей Мароз ды Ірэна Матус. Камісія конкурсу, у якую ўвайшлі Віталь Луба (галоўны рэдактар), Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі) і Яўген Мірановіч (старшыня Праграмнай рады) ацэньвала тэксты, прызнаючы кожнаму з іх ад аднаго да пяці балаў — максімальна ўдзельнік конкурсу мог сабраць 45 балаў (па 5 ад кожнага ўдзельніка камісіі за кожны адзін тэкст). Пераможца конкурсу, А. Мароз, сабраў 41 бал; недалека за ім апынуўся Яўген Вапа — 35 балаў. Камісія пастанавіла запрапанаваць працу Я. Вапу тады, калі ў рэдакцыі асвабодзіцца чарговы штат. Апошнія ўдзельнікі конкурсу атрымалі ад 26 да 32 балаў.

Камісія адзначыла вельмі прыстойны ўзровень дасланых на конкурс тэкстаў. Калі аўтары не выкажуць супраціву, іхнія лепшыя тэксты будуць паступова змяшчацца на старонках тыднёвіка. **(ам-к)**

# Каляднікі з Курашава ў Гдыні

Рымска-каталіцкі марскі касцёл (Stella Maris) у Гдыні супольна з Таварыствам дапамогі людзям выходзячым на свабоду „Эмаўс" у днях 9-11 студзеня г.г. правялі экуменічныя калядныя вечары. Свае калядкі спявалі ўкраінцы са Слупска, евангелісты і баптысты. У апошні вечар у нядзелю 11 студзеня ў касцёле Stella Maris выступілі каляднікі з Курашава і універсітэцкі хор пад кіраўніцтвам Бэаты Паўляк. Сабралася многа людзей, прыехала мясцовае тэлебачанне. Спярша выступілі курашаўцы — з каляровай „гвяздай", у кажухах, са святочна-навагоднімі пажаданнямі на роднай мове і багатым наборам нашых калядак. Добраму прыёму спрыяла выдатная акустыка. Сваё выступленне курашаўцы закончылі зграбнымі рыфмаванымі пажаданнямі на польскай мове і польскай калядкай „Wśród nocnej ciszy".

Крыху не падыходзіў да створанага каляднікамі з Курашава настрою універсітэцкі хор, які прафесійна праспяваў старыя і новыя польскія калядкі, а закончыў свой канцэрт англійскімі і амерыканскімі калядкамі, як жа радаснымі і зусім іншымі па настрою ад нашых ці польскіх.

Здавалася, што нягледзячы на ўзровень выканаўцаў, гледачы, якія па ўласнай волі прыйшлі на вечар калядак аднолькава цёпла дзякавалі адным і другім.

Каляднікі з Курашава прадавалі касеты з беларускімі калядкамі, якія ахвотна купілялі слухачы. Дарэчы, думаючы, што гэта калядкі ў іхнім выкананні. Але, як можна было прачытаць на запісаных Гайнаўскім домам культуры касетах, былі гэта калядкі ў выкананні групы з Дашоў і з агляду калядных калектываў з Беласточчыны. Мяне зацікавіла сама прысутнасць беларускіх (ці як было ў прэсавай інфармацыі — праваслаўных) каляднікаў у Гдыні. Жанчыны з Курашава адназначна дзякавалі (і прасілі напісаць тое) Мікалаю Бушко — дырэктару Гайнаўскага дома культуры. Арганізатары канцэрта ў Гдыні гаварылі, што ўсё афармлялася праз пасрэдніцтва праваслаўнага прыхода ў Гданьску. Як бы там не было, думка запрасіць каляднікаў з Беласточчыны (праваслаўных) выступіць у рымска-каталіцкім касцёле ў Гдыні — цудоўная. Як жа лепш можна пераломваць узаемныя прадузятасці, як не песнямі, асабліва ў час Калядаў, калі людзі — прынамсі на словах — яднаюцца.

Шкада толькі, што курашаўскія калядныкі не заспявалі сваім братам і сёстрам па веры ў праваслаўнай царкве ў Гданьску, напрыклад пасля нядзельнай багаслужбы. Нехта не падумаў?! А варта было б паказаць сваім людзям, асабліва іх дзецям, традыцыйны абрад калядавання з „гвяздай" і беларускімі калядкамі. Гэта ж наша культурнае багацце, якое часцей бачаць паляні, чым мы самі.

Ініцыятарам вечароў калядак былі: ксёндз Раман Зруй, Лена Казакоўска і Станіслаў Данялевіч. Усе яны звязаны з успомненым ва ўступе Таварыствам, якое было заснавана ў 1997 годзе з мэтай дапамогі людзям, якія выйшлі з турмы і быццам нікому непатрэбныя.

Канцэрт быў бясплатны, а калі хто хацеў, мог ахвяраваць грошы ў падтрымку Таварыства, якое дзейнічае на грамадскіх асновах.

**Лена Глагоўская**

# Салдат не выбірае поля бою

21 студзеня ў Ваяводскай управе ў Беластоку адбылося ўручэнне Медалёў 50-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ветэранам-інвалідам гэтай вайны, якія пражываюць на Беласточчыне. Урачыстасць была прымеркавана пад 53-ю гадавіну Варшаўскай аперацыі Савецкай Арміі. Медалі ўручаў палкоўнік Валеры Макоўскі, ваенны прадстаўнік пасольства Расейскай Федэрацыі ў Варшаве. Сказаў ён, што медалі з'яўляюцца сведчаннем удзячнасці былым салдатам з боку расейскага пасольства. Дадаў ён яшчэ, што 17 студзеня былі ўскладзены вянкі на мемарыяльных могілках савецкіх салдат у Варшаве і што „в настоящее время польская сторона заботится" пра месцы іх вечнага спачынку.

Апрача расейскага госця прысутнічалі і прадстаўнікі беластоцкіх уладаў. Прадстаўнік Управы горада Беластока Багуслаў Дэмбскі сказаў ветэранам, што з'яўляюцца яны сумленнем нашага грамадства, а за сваю ахвярнасць заплацілі шматгадовым недаацэнкай. Ведаем, дадаў ён, якія былі далейшыя лёсы нашай дзяржавы і радуемся сённяшняму яе суверэнітэту. Ігнацы Мацькoвяк, які прадстаўляў ваяводу, увесь час вельмі радаваўся сённяшняму юнацкаму задору інвалідаў. А яны, бедненькія, падыходзілі з цяжкасцю, спатыкаліся, а многія дык і зусім не маглі прыехаць і на ўрачыстасці прадстаўлялі іх сямейнікі. Хочацца спадзявацца, што пані ваявода, калі міне ёй хваляванне ад павышэння на адказную дзяржаўную пасаду, будзе больш старанна назначаць сваіх прадстаўнікоў на мерапрыемствы з вялікаю эмацыянальнаю павагай. Варта яшчэ згануць пра выступленне палкоўніка Аляксандра Урбаноўскага, які прайшоў баявы шлях у радах Войска Польскага ад Леніна па Берлін. Салдат не выбірае месца бою, гаварыў ён, месца бою выбірае яму лёс. Сёння гісторыкі пішуць, што Варшава ў студзені 1945 года не была вызвалена, толькі занята; трэба было там тады быць і бачыць, тады б яны сёння такога не пісалі б.

Спытаў я ў аднаго з ветэранаў як ён выбраў сабе месца бою.

— У вайну быў я на прымусовых работах у Прусіі, каля Кёнігсберга, — адказаў мне 75-гадовы Кірыла Алексяюк з Паўлаў. — Калі прыйшлі саветы, дык адразу забралі нас на допыты; энкавэдзіст палажыў пісталет на стол і распытваў, ці мы не ўласаўцы. А пасля паказалі як дзейнічае ружжо, далі тры разы выстраліць і — на перадавую! З Беласточчыны бралі ўсіх, бо да вайны належала яна да СССР. Наступалі мы на Пілаў, сённяшні Балтыйск. Шэсць кіламетраў перад Пілавам быў я ранены ў левую руку і па сённяшні дзень астаюся інвалідам. Разам са мною працавалі яшчэ пецярых маіх аднавяскоўцаў: адзін прапаў на фронце, а апошнія былі цяжка пакалечаны. Вось нядаўна адзін памёр, а і мне „няма ўжо каго дзядзькам называць" — як у нас у вёсцы гаворыцца.

„Юбилейную медаль 50 лет победы в Великой Отечественной Войне 1941—45 гг." па ўказу прэзідэнта Расейскай Федэрацыі ад 22.03.1995 г. атрымалі больш за восемдзесят ветэранаў з Беласточчыны. Сярод іх намнога больш было „Казімежаў" чым „Мікалаяў". Месцам бою за суверэнітэт Польшчы „выбралі" яны рады Савецкай Арміі.

**Аляксандр Вярбіцкі**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014


# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

*Загадка*

Якой парой прапелерам
Закруціцца ў палёце,
Зляціць з якога дрэва
Вясёлы ветралёцік?

(Вясной семя клёна)

## Зімовыя гульні — Сустрэчы „Зоркі”

У час зімовых канікул наша рэдакцыя наладзіла XII Сустрэчы „Зоркі”. Мерапрыемства ўжо чарговы раз праходзіць у Нарве. Сюды з’ехаліся дзеці і моладзь з Беластока, Белавежы, Чыжоў, Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі, Гарадка, Аўгустова.

Удзельнікі пад кіраўніцтвам мастакоў і тэатральных інструктараў займаюцца падрыхтоўкай альтэрнатыўнай п’есы на беларускай мове.

Апрача тэатральных гульняў праводзяцца сустрэчы са стваральнікамі беларускай культуры, музычныя вечарыны і краязнаўчыя экскурсіі. Сустрэчы „Зоркі” — гэта форма ўзнагароды для нашых карэспандэнтаў і энтузіястаў беларускай мовы.



**Нашы спонсары:**

Міністэрства культуры і мастацтва РП,

Польскі Фонд дзяцей і моладзі.

## Ёлка ў Гайнаўцы



23 студзеня г.г. у Гайнаўскім доме культуры сабраліся вучні пачатковых школ. На ёлку прыйшлі гайнаўскія дзеткі і моладзь са старэйшых класаў, якія ходзяць на заняткі беларускай мовы. Прыехалі таксама госці — вучні з Нарвы. Сустрэча пачалася дыскатэкай. Усе радаваліся, калі ў зале паявіўся Святы Мікалай. Дзеткі чакалі ласункаў і падарункаў. Аднак Мікалай спачатку хацеў пабачыць, як дзеці гуляюць, дэкламуюць вершы і як вядуць сябе на сцэне ў час прадстаўленняў. Першымі выступілі вучні з Нарвы. Паказалі яны сцэнку з вясковага жыцця. Гарадскія дзеткі глядзелі з зацікаўленнем, а пазней самі дэкламавалі вершы. На танцы і выступленні прыйшлі паглядзець і бацькі. Мікалай быў вясёлы і вельмі ахвотна гуляў з вучнямі. За добрыя выступленні вучні атрымалі ад Мікалая падарункі. Быў і пачастунак са смачнымі напоямі. Усім спадабалася музыка — гульні зацягваліся. Дзеткам не хацелася ісці дамоў. Святочная ёлка стала ўжо ў Гайнаўцы традыцыяй. Дзеткі, якія вучацца беларускай мове, з нецярплівасцю будуць чакаць яе цэлы год.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

## Адказ на літаратурны конкурс „Зоркі” № 10

1. „Белавежа” — літаратурнае аб’яднанне ў Польшчы, **існуе з 1958 года**. Яго старшынёй з’яўляецца **Ян Чыквін**.

2. Аповесць Сакрата Яновіча „Сярэбраны яздок” расказвае **пра Студзеньскае паўстанне (1863 г.) на Беласточчыне**, а дакладней: на Сакольшчыне, Гродзеншчыне (гістарычнай) і Гарадоччыне.

3. Беларуская дзіцячая літаратура можа пахваліцца выдатнымі прозвішчамі як: **Васіль Вітка, Аляр’ян Дзеружынскі, Артур Вольскі, Эдзі Агняцвет, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Мар’ян Дукса, Васіль Жуковіч, Васіль Зуёнак, Валянцін Лукша, Пятрусь Макаль, Мікола Чарняўскі, Станіслаў Шушкевіч, Паўлюк Пранузა, Іван Муравейка, Віктар Шніп, Ала Канапелька, Людміла Рублеўская**.

Сярод Зорчыных аўтараў найбольш вядомыя: **Віктар Швед і Міра Лукша.**

4. Браніслаў Тарашкевіч быў выдатным **палітыкам, літаратарам**, ён з’яўляецца аўтарам беларускай граматыкі і **беларускага перакладу „Пана Тадэвуша”** А. Міцкевіча.

5. Першая беларуская асветніца **Еўфрасіння Полацкая** (унучка слаўнага князя Усяслава Чарадзея) прызнана праваслаўнай царквой як **Апякунка Беларусі.**

Узнагароду — найнавейшую кніжку А. Глёбуса „Койданава” — выйграў **Юрка Буйнюк з Маліннік**. Віншуем!

## Польска-беларуская крыжаванка № 6

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Maleństwo ► | | | | | ▼ | |
| ▼ | Smutek | Pasta do butów | Głaz | Ręcznie tkana kapa | | Trzewiki |
| | 📖 | | ▼ | | | Lakier |
| | | ▼ | | ▼ | | ▼ |
| | Wokal | ► | | | | |
| Źdźbło ► | | | | | | |
| | Kulig | ► | | | | |
| ► | | | | | | 📖 |
| Wstążka | | | Mgnienie | ► | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 1:** карагод, карашок, год, зулус, раз, мята. Дакор, рада, шар, газ, пошум, лёс, кут, краса.

**Адказ на крыжаванку Дароты Юшчук** (н-р 2): лозунг — Рэбус.

Узнагароды — **кніжку Міколы Гайдука „Белавежскія быліцы і небыліцы”** — выйгралі: **Анэта Купрыяновіч** з Кленік, **Аня Камар** з Тыневіч Малых, **Веслаў Лукашук** з Бельска-Падляшскага і **Ірэна Драўноўская** з Катоўкі.

**Віншуем!**

Па ўзнагароды можна зайсці ў рэдакцыю „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

## *Вершы Віктара Шведа*

### Вучнёўская памылка

На ўроку пытаюць:
— Скажы нам, Данілка,
Найбольшая якая
Вучнёўская памылка?

— Хіба перакананне
У школьным асяроддзі,
Што заўсягды настаўнік
Ахвотна ў школу ходзіць.

### Адукацыя

Заўсягды вялікай працаю
Здабываем адукацыю.
Трэба нам абавязкова
Шанаваць такое слова.

Здабываем многа ведаў
І губляем шмат бясследна.
Умення ілюстрацыя —
Людская адукацыя.

Талон „Зоркі” № 6
08.02.1998



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# „Роднае слова” ў Нараўцы



20 студзеня г.г. у Пачатковай школе ў Нараўцы завяршыўся Цэнтральны дэкламатарскі конкурс „Роднае слова”. У мерапрыемстве прынялі ўдзел 52 выканаўцы. Арганізатарам конкурсу, традыцыйна ўжо, было ГП БГКТ.

**Лаўрэаты**

**Катэгорыя — класы 0—3**

**Спецыяльная ўзнагарода** фундаваная дырэктарам ПШ у Нараўцы **Яўгенам Валкавыцкім** прыпала **Магдалене Чыквін** з ПШ н-р 2 у Гайнаўцы.

**I месца — Магдалена Дудзіч**, ПШ у Ласінцы,

**II месца — Барбара Каліноўская**, ПШ н-р 6 у Гайнаўцы,

**II месца — Марта Бабулевіч**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,

**II месца — Катажына Краўчук**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,

**III месца — Эдыта Перавой**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,

**III месца — Агата Васільчык**, ПШ у Нараўцы.

**Вылучэнні: Тамаш Васілюк** — ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Павел Кандрацюк** — ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Аркадзій Дораш** — ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Андрэй Паўлючук** — ПШ у Пасынках з сядзібай у Крывой, **Мар'юш Шымкевіч** — ПШ у Нарве.

**Катэгорыя — класы 4—5**

**Спецыяльную ўзнагароду** старшыні ГП БГКТ і пасла ў Сейм Рэчы Паспалітай **Яна Сычэўскага** атрымала **Наталька Кос**, вучаніца ПШ у Ласінцы.

**I месца — Анна Апалінская**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,

**I месца — Анна Паўлючук**, ПШ у Пасынках з сядзібай у Крывой,

**I месца — Паўліна Савіцкая**, ПШ у Гарадку,

**II месца — Анэта Трафімюк**, ПШ у Кленіках,

**II месца — Паўліна Васылюк**, ПШ н-р 2 у Гайнаўцы,

**III месца — Паўліна Пашко**, ПШ у Ласінцы,

**III месца — Павел Герасімюк**, ПШ у Орлі.

**Вылучэнні: Паўліна Пашко**, ПШ н-р 6 у Гайнаўцы, **Ганна Кісла**, ПШ у Нараўцы.

**Катэгорыя — класы 6—8**

**Спецыяльную ўзнагароду** войта Нараўчанскай гміны **Міколы Павільча** атрымала **Анна Паўлючук**, вучаніца ПШ у Пасынках з сядзібай у Крывой.

**I месца — Жанэта Роля**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,

**I месца — Агнешка Брэнька**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,

**II месца — Бэата Мінько**, ПШ у Ласінцы,

**II месца — Уршуля Тарасэвіч**, ПШ у Гарадку,

**III месца — Агнешка Максімчук**, ПШ у Рыбалах,

**III месца — Адрыян Крукоўскі**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,

**III месца — Барбара Харкевіч**, ПШ у Нараўцы.

Усім лаўрэатам і ўдзельнікам конкурсу „Роднае слова” найлепшыя віншаванні ад нашай рэдакцыі.

**Зорка**

## *Караед*

Стары караед
Угрызся ў кару,
Ў карычневым фраку
Паўзе угару.
— Хто тут „дармаед”?! —
Крычыць на „тук-тук”. —
Не дарма грызу
Старую кару,
Бурую ў кары
Крывы калідор!
А брыдка гаворыць
Пра мяне ўвесь бор!

**Міра Лукша**

# Міфы старой Беларусі

**20. Кадук**

Кадук — злы дух, вядомы ва ўсёй Беларусі, — запісаў у палове XIX ст. этнограф Павел Шпілеўскі.

Здалёк нагадвае ён капу сена ці кучу моху. Людзей палохае не толькі выглядам, але і дзіўным рухам. Ён, быццам фата-маргана, з'яўляецца і знікае, прыносячы шкоду і няшчасце.

Чалавек, пабачыўшы гэтую пачвару, можа памерці ад жаху. У Кадука вялізная, калматая галава з шырокім па вушы горлам. Калі пачвара разявіць халяву, відаць белыя зубы і чырвоны, быццам агонь язык.

Найчасцей Кадук жыве ў лесе, у багністым балоце. Бяда людзям, якія пападуць у такое месца. Іх найперш будзе „вадзіць” нячыстая сіла (г.зн. чалавек будзе блукацца па ўсім лесе, каб папасці зноў у месца адкуль выйшаў), каб у канцы загінуць у жытле пачвары.

Кадук рэдка выходзіць з багны. Ён вечна заняты абдумваннем шкоды для людзей. Яго думкі і загады здзяйсняюць падчыненыя яму нячысцікі. Сам Кадук праяўляецца ў момант праклёну сярдзітага чалавека — „А каб цябе Кадук узяў”. На шчасце, гэтая ліхая хвіліна з'яўляецца толькі ў час усходу сонца, у поўдзень і апоўначы.

# *Пішуць школьнікі*

**Добры дзень „Зорка”!**

Піша Табе вучань восьмага класа Пачатковай школы ў Новым Корніне — **Марцін Мялешка**.

Хачу Табе расказаць пра свой клас і школу. У нашым класе вучыцца чатырнаццаць асоб. На беларускую мову ходзіць трынаццаць вучняў. На ўроках беларускай мовы чытаем „Ніву” і старонку „Зоркі”, а таксама рашаем крыжаванкі і конкурсы. Настаўніца некаторых вучняў падрыхтоўвае да дэкламатарскага конкурсу. З нашага класа рыхтуюцца толькі дзве асобы.

У школу даязджаюць вучні з Новага Корніна, Чыжык, Трывежы, Новаберазова, Катоўкі, Васількова, Дубіч-Асочных, Хітрай і Барка. Школа ў нас новая, двухпавярховая. На паверсе вучацца I—III класы. Ёсць настаўніцкі пакой, фізкультурная зала, сталовая. На другім паверсе знаходзяцца кабінеты: матэматычны, фізічны, біялагічна-хімічны, польскай мовы, а таксама бібліятэка, кабінет дырэктара і школьная святліца. У нашай школе знаходзяцца дзве кватэры. У адной з іх мае заняткі нулявы клас.

Мне падабаецца наша новая школа.

**Марцін Мялешка**

# Дамалюйце карціну




*Спалучыце пункты, падпісаныя лічбамі ад 1 да 26 і атрымаеце поўную карцінку.*

# Францыск Скарына

## *альбо Як да нас прыйшла кніга*

*(пачатак у 47 нумары за 1997 год)*

**Кніга набывае пераплёт**

Першымі вокладкамі, як сведчыць гісторыя, былі якраз прыгожа аздобленыя васковыя таблічкі са слановай косці. Імі абкладвалі спярша манастырскія кнігі.

Аправа рукапісаў штораз удасканальвалася.

Некалькі пергаменных сшыткаў злучаліся адзін з адным, а тады на спінкі ім падкладваўся вялікі кавалак тканіны так, каб яго краі заходзілі ў спецыяльныя ямкі, зробленыя ў драўляных дошках — вокладках кнігі.

Гэтыя дошкі былі найчасцей дубовыя, букавыя, кляновыя. Памяць пра драўляныя кніжныя вокладкі жыве і цяпер у выразе „прачытаць ад дошкі да дошкі” — гэта значыць, ад пачатку да канца. Як пра пергамен — у выразе „і на валовай скуры не спішаш”...

Вокладкі-дошкі абцягвалі скураю, валоваю ці свіною, а каб пергамен пры сырым надвор'і не карабаціўся, завязвалі шнуркамі або зашпільвалі металічнымі засцежкамі.

Аправа найстарэйшых сярэднявечных кніг часта была не так узорам пераплётнага майстэрства, як залатніцтва і разьбярства. Багатыя вокладкі кніг аздабліваліся рознымі ўзорамі з золата ці серабра, выкладваліся каштоўнымі камянямі, перламі, барвовай эмаллю. Адна такая вокладка — цэлы скарб. І не адна з такіх апраў стане на працягу стагоддзяў ахвяраю грабежніцтва.

У сярэдневяковых бібліятэках нярэдка таму да вокладак кніг прырабляліся спецыяльныя вушкі, за якія мацавалі на замок аправу-акуцце да жалезнага ланцуга. Ланцуг бралі трывалы, каб кнігу нельга было ўкрасці, і даволі доўгі, каб яе можна было ўсё ж чытаць. Каб запалохаць магчымых зладзеяў і засцерагчы кнігі ад выкрадання, да рукапісаў часта дадавалі аркушыкі з праклёнамі. На ўзор такіх:

Хто гэтую кнігу ўкрадзе,
Няхай таму рука адпадзе!
Або:
Хто гэтую кнігу схавае пад кажух,
Хай той з голаду апух!

Кніжнік даўней меўся быць майстрам на ўсе рукі: усё ў кнізе яму даводзілася рабіць самому. Аднак пазней пачынаюць арганізоўвацца спецыяльныя майстэрні пісьма — скрыпторыі.

*(працяг будзе)*

**Анатоль Клышка**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Выказваюся за месячнік

**Адгалоскі**

Прачытаўшы ў навагоднім нумары „Ніве" роздумы Сакрата Яновіча п.з. „Вартавыя памяці" маю пытанне да аўтара: ці варта такія залатыя думкі друкаваць у „народнай" беларускай газеце? Яновіч дамагаецца часопіса для Літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Поўнасцю падтрымліваю гэту думку. Найлепш, каб творчасць Янкі Целушэцкага, Яна Чыквіна, Васіля Петручука, Сакрата Яновіча, Міры Лукшы, а таксама Ады Чачугі і Мікалая Панфілюка друкавалася ў адным зборніку і каб побач іхнім творам спадарожнічалі навуковыя літаратуразнаўчыя аналізы.

Вельмі шчыра жадаю нашым літаратарам прыдбаць сваё перыядычнае выданне, найлепш месячнік аб'ёмам у 100-200 старонак. Такога поспеху жадаю нашым паэтам і пісьменнікам перш за ўсё як пастаянны і закаранелы чытач „Нівы".

**Уладзімір Кавальскі**
**(Беласток)**

# Каля літаратуры

Не зусім я згодны з прапановай У. Кавальскага, які бачыў бы новы часопіс беларускіх літаратараў у Польшчы. Мусіў бы быць ён не толькі **для** пісьменнікаў, каб маглі друкавацца, але, перш за ўсё, для чытачоў. Верныя чытачы „Нівы" купілі б, пэўна, і той новы часопіс, бо мелі б магчымасць пазнаёміцца з літаратурай, нашай і з Беларусі, да якой практычна не маем доступу. Напэўна чытачоў было б нямала, калі б нашы людзі не шкадавалі таго граша, не гавару ўжо на „беларускую справу", але на сваё развіццё. Некаторыя больш карысным лічаць выпіць піва і прапусціць яго праз мачавы пухір, чым прапусціць праз свой розум пару старонак. Яшчэ выслухаюць касету і паківаюцца ў рытме беларускага *disco polo*, бо тут не трэба вялікага высілку.

А можа вы прапануеце, каб пазбавіць „Ніву" літаратурных ці калялітаратурных тэкстаў? Калі ўперціся, у такім выпадку трэба было б выкастраваць яе і з нарысаў (рэпартажаў), па форме блізкіх празатарскаму жанру. А што з „Парнасікам", фельетонамі пісанымі вершам?

„Літаратурная старонка «Белавежы»" часам робіцца сапраўды вельмі ж элітарная, перш з прычыны **каля**крытычных тэкстаў, якія дачытаць да канца змогуць толькі мазахісты, што любуюцца ў павярхоўнай слоўнай забаве акадэмічных эрудытаў. Як на крытычныя матэрыялы, мусяць яны быць кароткія, бо толькі такія ўціснуцца на адну калонку. Чытача, па мойму, могуць зацікавіць змястоўныя кароткія рэцэнзіі пра новыя выданні. Хто мае ахвоту купіць кнігу, так як і іншае беларускае выданне, не пашкадуе таго граша на штосьці вартае ўвагі. А роздумы Т. Занеўскай паспяхова друкуюцца ў кнігах, і то ў штораз лепшых. Тое, што раней друкавала яна ў газетах, яе самой пэўна цяпер не захапляе. Бо месца мала, і лічыцца трэба з сярэдненачытаным чытачом, і пракладваць першыя сцежкі, і самому развівацца. Абы толькі гэта не было „сабе і музам"! Бо калі, ці ў кніжцы, ці ў перыядычным выданні, нашы крытыкі ці пісьменнікі будуць толькі хваліць адзін аднаго, будзе гэта пераліванне з пустога ў парожняе. А крытыка заўсёды суб'ектыўная, да таго ж, як ні глядзі, друкуецца перш за ўсё тое, на што дасць грошы пан ці падпанак.

Не ведаю, ці іронія пана Кавальскага была разлічана на эфект і жарт, ці так яму сказалася, калі пералічыў нашых літаратараў. Бо я супраць таго, каб у спіску памяшчаць першага плагіятчыка разам з Мікалаем Панфілюком, які піша можа не найбольш складна, але сваё.

**Вандал Арлянскі**

# Новыя вершы

### Бярозы ды сосны

Бярозы ды сосны —
браты і сёстры
па схілах узвышша
угору ўзнімаліся.

Птушкі на галінках
ім песні спявалі,
у зялёных каронах
свае гнёзды вілі.

Раптам старыя дрэвы
спыніліся...

Маладыя ішлі далей,
вышэй ды вышэй,
назад не азіраліся —

Калі вятры
усё галлё паламалі,
крыжамі сталі.

* * *

Былі
гаварылі штосьці

Выехалі

Потым надышла зіма
стагоддзя

Снег засыпаў
усе пераходы
да дому
мароз замарозіў
вокны

Вясной
прыляцела еўропа
на камені села

задумалася

### Паэзія

Ізаляваны — не крычу.
Самотны — я не плачу.
Ты, як Усявышні,
Заўсёды ёсць прысутная —
Нябачная
Шчыліна ў мурах.

**Юры Баена**

* * *

сончык
выхінаецца вясной
з касматага сну
сінім вогнікам

сончыкаў няма
сёння ў маёй лагчыне
ва ўрочышчы Марушка

лёг на іх не пухам
жоўты жвір дарогі
якая вядзе нікуды

**Міра Лукша**

# Наша пошта

Дарагая рэдакцыя, у маім вершы „Падслухана" („Ніва" № 3 ад 18 студзеня 1998 г.) выпаў радок: *тонкай энергіі*. Атрымалася бяссэнсіца. Дыялог паміж Эйнштэйнам і Ньютанам зыходзіць з формулы

$$\frac{E_s}{I^2} = mi$$

у якой $E_s$ — тонкая энергія, $I^2$ — квадрат звышсветлавай хуткасці, mi — уяўная маса. Без $E_s$ — як бачыце — ураўненне не мае сэнсу.

У гэтым вершы *тонкая энергія* іграе найважную ролю. Дык Эйнштэйн і Ньютан хочуць у выглядзе ўраўнення прадставіць рэчаіснасць, у якой яны знаходзяцца (астральную, духовую ці нейкую іншую).

У надрукаваным выглядзе верш не мае права на існаванне.

**Барыс Руско**

**Ад рэдакцыі:** Сардэчна перапрашаем за дапушчаную памылку і друкуем Ваш верш у нескажонай форме.

### Падслухана

— Альберт,
што значыць вынік дзелі
тонкай энергіі
і хуткасці квадрат звышсветлавай?
— Масу ўяўную, Ісак.
— У катэгорыях матэматыкі
дэфініявальны мы?
— У мове Бога дэфініявальна
усё, Ісак.

# III Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць III Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.

**Тэматыка**

Арганізатары не абмяжоўваюць тэматыкі дасыланых твораў. У конкурсе будуць разглядацца працы на беларускай мове.

**Прынцыпы ўдзельніцтва**

1. Конкурс праводзіцца ў трох узроставых групах:
— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ,
— II група: моладзь сярэдніх школ,
— III група: дарослыя (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў двух катэгорыях: паэзіі і прозы.

3. Конкурсныя працы, надрукаваныя на машынцы або разборліва рукапіс у трох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас:

Redakcja „Niwy"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok

з прыпіскай на канверце: III Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такімі нумарам узроставай групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**Тэрміны**

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае 10 мая 1998 г. (вырашае дата паштовага штампа).

2. Конкурс завершыцца да 2 чэрвеня 1998 г.

3. Аб'яўленне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел. Прадугледжваецца таксама аўтарская сустрэча з лаўрэатамі.

**Узнагароды**

1. Арганізатары прыдбалі ўзнагароды вартасцю ў 3 000 злотаў. Дапускаюцца таксама ўсялякія іншыя ініцыятывы арганізацый і прыватных асоб з мэтай павелічэння колькасці ўзнагарод. Арганізатары будуць садзейнічаць такім ініцыятывам.

2. Аб падзеле і вартасці ўзнагарод рашае ўстаноўленае арганізатарамі журы.

3. Журы можа не выкарыстаць усяго фонду ўзнагарод.

4. Арганізатары прадугледжваюць магчымасць публікацыі ўзнагароджаных твораў (без права аўтараў на ганарары) на старонках „Нівы", у агульнапольскім друку і па радыё.

5. Як дадатковая ўзнагарода прадугледжваецца выданне асобнага зборніка ўзнагароджаных і дадаткова вылучаных цераз журы прац.

**Заключныя заўвагі**

1. Працы, якія не адпавядаюць правілам конкурсу, не будуць разглядацца.

2. У справах, якія вынікаюць з супярэчлівага тлумачэння правілаў, канчатковае рашэнне выносяць арганізатары ў паразуменні з журы.

3. Сакратарыят конкурсу змяшчаецца ў:

Redakcja „Niwy"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok
tel. 435-022

Тут можна атрымаць дэталёвую інфармацыю.

Запрашаем прыняць удзел у конкурсе і жадаем поспехаў.

**Арганізатары**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Яшчэ аб „Страхоўцы ў наручніках”

**Адгалоскі**

**Insynuacja czy fakty**

Do napisania artykułu „Страхоўка ў наручніках” („Niwa” nr 2 z dnia 11.01.1998 r.) skłoniły mnie sygnały od obywateli o niewłaściwym postępowaniu policji w stosunku do nich (mam kilka pisemnych oświadczeń od osób poszkodowanych i nagrane na dyktafon ich relacje). Natomiast w przedmiotowym artykule opisałem zdarzenie, w którym uczestniczyli Mirosław i Elżbieta Leoniukowie. Oświadczam, że pisząc ten tekst wykorzystałem relacje poszkodowanych. Po przeczytaniu artykułu państwo Leoniukowie jeszcze raz, na piśmie, potwierdzili prawdziwość zawartych w nim faktów. Trudno więc mówić o insynuacjach w stosunku do komendanta Jerzego Charkiewicza.

Narzekań na niepraworządne postępowanie komendanta w toku prowadzenia procesowych czynności dochodzeniowych polegających na straszeniu przesłuchiwanych, przeprowadzaniu przeszukań niezgodnych z kpk (...) oraz na niewłaściwe, nietaktowne i nierozważne zachowanie się wobec niektórych mieszkańców, jest więcej. Świadczą chociażby o tym wcześniejsze zażalenia pisane do przełożonych i Prokuratury przez poszkodowanych.

W artykule nie chodziło mi o insynuacje lecz o dobro naszego środowiska i kształtowanie odpowiedniej opinii o pracy policji, tym bardziej że żyjemy w okresie, w którym coraz więcej jest skarg na niepraworządne postępowanie policji, coraz więcej wszczynanych jest postępowań wyjaśniających przeciwko policjantom. O tym informują środki masowego przekazu. Nie twierdzę, że wszystkie doniesienia są słuszne, wiele jest w nich złośliwości, pomówień, politycznych uprzedzeń. Wiem doskonale, jak ciężka i odpowiedzialna jest praca policji w obecnych skomplikowanych warunkach, jak niebezpieczna, ale tym bardziej należałoby, w miarę możliwości, zważać na praworządne postępowanie, na kulturę zachowania się, na obiektywizm procesowy, gdyż każde nawet małe potknięcie może być wykorzystane dla podważenia opinii stróżów porządku publicznego. Wiem także, że w tej ciężkiej pracy dają znać o sobie nerwy, nieraz wprost wściekłość, a przestępcy wiedzą o tym, iż policja boi się używać przemocy z uwagi na postępowania dyscyplinarne, i że ma z tego powodu poważne nieprzyjemności służbowe. Świadczą o tym chociażby ostatnie dramaty w Słupsku. Właśnie dlatego należy powstrzymywać się od „przeginania pały”, szczególnie w swoim, znanym przecież dobrze środowisku, gdzie takiej konieczności nie ma. Pisząc ten artykuł wychodziłem właśnie z tego założenia i chciałem zwrócić uwagę na bezcelowość takich poczynań w stosunku do naszych mieszkańców, tym bardziej że w porównaniu do innych miejscowości u nas nie ma większego zagrożenia bezpieczeństwa, jest w miarę spokojnie. Z praktyki, z opracowań naukowców z dziedziny kryminalistyki, psychologii przesłuchań wiemy, iż ciepłym słowem, kulturą, mądrą i umiejętną taktyką postępowania można więcej zdziałać, szybciej doprowadzić do przyznania się podejrzanego lub świadka, że przemoc i arogancja mają odwrotny skutek.

Myślałem, że artykuł mój spowoduje, iż komendant wyciągnie z tego należyte wnioski dla swojej pracy, zgodnego z prawem postępowania, dla ugruntowania pozytywnej opinii wśród mieszkańców gminy Orla, jednak odpowiedź komendanta na ten artykuł jest przepełniona złośliwością, zemstą, usiłowaniem skompromitowania mnie w oczach Czytelników. Pisze on, że nie zasięgnąłem informacji drugiej strony o zażaleniu Leoniuka na niepraworządne postępowanie w czasie prowadzenia dochodzenia w sprawie rzekomej kradzieży pieniędzy z PZU. Przecież tą drugą stroną był komendant, a nie pracownicy Komendy Rejonowej lub Wojewódzkiej, do których on mnie odsyłał. Przecież o takich sprawach nie zawiadamia się przełożonych, a robi się zazwyczaj bez świadków. Co oni mogli mi powiedzieć? Komendant użył pod moim adresem słów: chamski, pismak, facet. Nie obrażam się za to, tylko wyrabiam sobie zdanie o kulturze postępowania osób, które uważają siebie za moralnych i kulturalnych. Komendant napisał, że mój rozwód nastąpił z powodu mojego alkoholizmu. Znowu udowodnił on, że jako przedstawiciel organów sprawiedliwości mija się z prawdą, że zdolny jest do złośliwości. Mam do ewentualnego wglądu wyrok rozwodowy z uzasadnieniem, gdzie ani w jednym zdaniu nie ma wzmianki o alkoholizmie, a rozwód nastąpił bez orzekania o winie, za porozumieniem stron. Komendant naruszył więc art. 178 kk. Czy z tego powodu będziemy procesować się? Chyba nie, bo rozumiem, że działał on na pewno pod wpływem impulsu. Jeszcze raz podkreślam, że artykuł pisałem mając na uwadze dobro społeczne naszych mieszkańców, którzy żalili się do mnie oraz dobro policji. Policjant nie musi być postrzegany jako wróg społeczny, „pałkarz”, lecz jako przyjaciel ludzi, ich opiekun przed elementem przestępczym, rzecznik praworządności.

Pragnę jednak podkreślić, że faktycznie p. Jerzy Charkiewicz jest znanym działaczem kulturalnym, od wielu lat śpiewa w chórze przy Domu Kultury w Bielsku Podlaskim, szerząc naszą kulturę nie tylko w woj. białostockim, ale i poza jego obszarem. Za to należą mu się słowa uznania i podziękowania. Taka praca wymaga przecież wielu wyrzeczeń i wiele czasu kosztem najbliższych.

**Michał Mincewicz**

**Ад рэдакцыі:** Гэтай рэплікай завяршаем дыскусію над тэмай, выкліканай артыкулам нашага карэспандэнта.

# Шлях смерці

[3 ☞ працяг]

палату кантролю, у Сейм, прэм’еру, у Міністэрства транспарту... Пасля двух гадоў намаганняў пажарная каманада аднавіла дзейнасць...

— Калі я ўчора (29.12.1997 г.) ехала ў Чаромху, дзень быў сонечны, — уключаецца жонка Міраслава пані Зінаіда. — Глянула я на наш Нурчык, а на ім бліШчаць нейкія плямы. Вярнулася дамоў, а муж кажа, што

**зноў аварыя была...**

Паведамляе старшы пажарнік-ратаўнік Славамір Батура, дзяжурны:

— На чыгуначнай станцыі аўтол і іншае рэчыва выцяклі ў рэчку. Дапłылі яны ўжо амаль у Кляшчэлі. Нашы пажарнікі выцягваюць усё гэта, каб не плыло далей. Маладая каманда мела ўжо 54 інтэрвенцыі. Некалькі аварыяў тычылася хімічных матэрыялаў. 17 снежня 1997 г. мы заканапацілі ў Чаромсе цыстэрну, з якой выдувала газ...

Пажарнікі выцягвалі хімікаты двое сутак. Атрута можа сцячы ў ваду, у зямлю, пасля ў калодзежы і страўнікі людзей.

Апошнім часам у Чаромсе

**памерла многа маладых**

хлопцаў, якія найчасцей жылі недалёка ад чыгункі або там працавалі, — спадар Навіцкі гэту сумную навіну пакінуў на канец размовы. — Збышак Стэпанюк памёр у сорак гадоў, раней працаваў у лакаматыўным дэпо. Быў чэмпіёнам спорту. Пачала яму пухнуць нага, праз месяц дайшло да сэрца. Сенька Раманюк — у пяцьдзесят, працаваў у лакаматыўным дэпо, хадзіў каля цыстэрнаў... Трох братоў Гансяроўскіх, Кшыштаф, Люцыян і Зыгмунт памерлі за сорак, іхныя бацькі таксама не жывуць. Усе яны жылі сто метраў ад чыгункі. Чыгуначнікі Яўген Швэц і Міша Мароз страцілі жыццё таксама пад сорак... Нават у Варшаве звярнулі ўвагу на тое, што ў нас як нейкая эпідэмія саракагодкаў на чыгунцы. Можна пахадзіць на могілках у Чаромсе, паглядзець...

Імчаць цягнікі праз Семяноўку, Гайнаўку, Чаромху... Уміраюць людзі пацíху.

Хто чакае выбуху, каб усе пачулі?

**Аляксей Мароз**

**Якія мы людзі**

# Імяніны

Нельга было сказаць, што Ганулька, каханая дачушка і ўнучка, адчувала сябе нешчаслівай. Была б гэта няпраўда. Аднак жа здаралася, што вярталася яна са школы сумная, як, напрыклад, тады, калі яе сяброўка, з якой яна сядзела за адной партай, павaліла яе на падлогу ў школьным калідоры ды яшчэ стала нагою на яе грудзях, быццам нейкі варвар-пераможца. Дзяўчынка такой нікчэмнасці не чакала, але маме са слязьмі ў вачах сказала цвёрда: „Аддаваць ёй не буду. Як жа я яе буду біць? — Гэта ж мая сяброўка!” Тады малая была ў другім класе.

Часта яе радасць засмучвала людская нелаяльнасць. Рашыла вось сяброўцы задачу на лістку паперы, а яна — замест перапісаць у сшытак — устала з-за лаўкі і сказала настаўніцы: „А Ганка не хацела мне пазычыць сшытак!” Тады Ганульцы сапраўды бывала прыкра.

Былі і яшчэ справы, якія Ганульцы ў школе не падабаліся, але яны не датычыліся беспасрэдна яе. Вось, напрыклад, некаторыя дзеці прыносілі ў школу вялікія грошы і раскідаліся імі. Адна дзяўчынка мела нярaз і па трыста злотых, якія выдавала за адзін дзень, абдорваючы дзяцей падарункамі ўзамен за сяброўства. Адкуль яна брала такія грошы? Пэўна ж, бацькі ёй на дробныя выдаткі столькі не давалі... А мо сама брала з аб’ёмістай бацькоўскай касы?..

А пасля ў час гімнастыкі пачалі дзецца дзіўныя рэчы. Спачатку сталі прападаць шкарпэткі і ніхто не мог іх знайсці. Пасля ўжо ўсе здагадаліся, куды яны адплылі, бо ў прыбіральні, у ракавіне, пачалі знаходзіць то бацінак, то кашульку, а калі ў адыходах адзін хлопец знайшоў і сваю куртку, зрабіўся немалы скандал. Ганульцы тут пашанцавала: яе рэчаў у туалет не ўкінулі. Балюча ёй было, аднак: як маглі зрабіць такое яе калегам з класа...

Хаця Ганулька адчувала сябе шчаслівай, мела ўсё ж такі крыху прэтэнзіі да лёсу. Вось, напрыклад, чаму гэта яна нарадзілася летам, а не так, як большасць дзяцей — у часе навучальнага года?!.

То адна, то другая сяброўка запрашала яе на дзень нараджэння, а яна не магла адплаціць ім тым самым. Ды і ў класе імяніннікаў віншавалі, а нават некаторыя давалі ім падарункі, а яе — не віншавалі ніколі. Ой, як хацелася Ганульцы пагуляць з дзецьмі на яе дні нараджэння! Але што ж, калі ўсе вучні ў той час раз’язджаліся, ды і яна сама заўсёды некуды ехала то з бацькамі, то з дзедам і бабуляй. Вакацыі!

І ў мінулым годзе Ганульчына мама вырашыла наладзіць ёй сапраўдны дзень нараджэння, каб быў не толькі ў сямейным крузе, але і з сяброўкамі ды сябрамі. Ну і што, што нарадзілася яна ў ліпені, а мы вось запросім усіх раней, у чэрвені, сказала мама. Яшчэ ўсе будуць на месцы.

Ганулька ўцешылася надта, а мама як сказала, так і зрабіла. Як жа малая чакала таго дня, калі збяруцца і ў яе сябры і сяброўкі са школы! Рыхтаваліся яны ўдваіх з мамай, напяклі рознага пячэння, а яшчэ ж бабуля спякла торт. Усяго было поўна на стале: і цукерак, і фруктаў, і сокаў розных, было і марожанае.

Мама Ганулькі дзецям нічагуткі не шкадавала. Накрыла стол у гасцінным пакоі. Стол быў вялізны, авальны, і ўсім дзецям хапіла месца. А на стале харaство. І кветкі, і сурвэткі прыгожыя, і посуд розны. Марожанае было ўпрыгожана малюсенькімі парасончыкамі, а торт бабулі свяціўся рознымі колерамі жэле. Але была забава!

Мама дазволіла дзецям гуляць і танцаваць таксама ў Ганульчыным пакоі. Пакойчык яе, праўда, быў цесная ваты, але стаяла там прыгожая мебелька ў чырвона-сінюю клетку. Ганулька вельмі любіла свой пакой і меркавала, што дзецям ён спадабаўся таксама. Не, яе пакойчык не мог ім не падабацца. Ганулька не жыла тут адна, бо стаялі, сядзелі і ляжалі тут яе дзіцячыя сябры — лялькі, сабачкі, коцікі, малпкі, зайчыкі, конікі. Многія цацкі Ганулька здабыла сама, беручы ўдзел у розных конкурсах і займаючы добрыя месцы.

Раптам хлопцы пачалі перакідвацца гэтымі цацкамі, быццам мячом. Дзякуй Богу, што цацкі былі мяккія, а то зараз жа паляцела б акно. Лямпа, што стаяла ля пісьмовага століка дзяўчынкі, гойдалася з боку на бок, і ўрэшце бразнула на падлогу, а шкло рассыпалася ў дробны мак.

Ганулька ледзь не расплакалася, але мама прыбрала разбітае шкло і сказала, што нічога не здарылася. Тады хлопцы прыдумалі іншую забаву: скачкі з піяніна. Два вучні хадзілі па піяніна ў адзідасах, быццам па нейкай алейцы ў парку. І Ганулька, і яе бацькі стараліся не заўважаць гэтага. Не выпадала ім звярнуць увагу: усё ж госці. А ў Ганулькі сэрца так і шчымела: гэта ж яе любімы інструмент...

Быццам мала было гэтай забавы, хлопцы прыдумалі новую канкурэнцыю: скачкі з піяніна на Ганульчын ложак. Далікатны ложак не вытрымаў. Раздаўся трэск на ўсю кватэру — і ложка ўжо як не было.

Праўду кажучы, знайшлося б у Ганульчыным невялікім пакойчыку яшчэ што паламаць, але бацькі дзяўчынкі паклікалі дзяцей ізноў да стала.

Калі дзеці пайшлі дахаты і Ганулька ўвайшла ў свой пакойчык, здалося ёй, што тут здарылася нейкая катастрофа. Ёй стала страшна і яна нарэшце расплакалася.

Дзяўчынка была яшчэ замалая, каб уявіць сабе сваіх сяброў у ролі фанатаў „шалікоўцаў” на стадыёне.

**Ада Чачуга**

# Суседзі таксама выйгралі

Аднае пятніцы маю ўвагу прыцягнула чырвоная аўтамашына (нумар BIK 2290), якая ў канцы вёскі павярнула назад і спынілася каля маёй хаты. З аўтамабіля выйшаў малады чалавек. Ужо ў хаце растлумачыў ён мне, што правярае нумары ў пашпартах. Калі ў маім пашпарце будуць лічбы 2, 3 і 5, тады я буду ў выйгрышы, значыць, атрымаю дарам дзве рэчы, а толькі за трэцюю трэба будзе мне заплаціць. Паглядзелі мы ў пашпарт, але названых лічбаў не знайшлі. Тады дзелавіты гандляр паглядзеў на ідэнтыфікацыйны нумар PESEL і згледзеў у ім дзве 3 і дзве 5 ды заявіў, што я ўсё-такі выйграў. Пачаў я тлумачыць, што няма ў мяне грошай, бо жонка паехала да лекара і забрала кашалёк. Запрапанаваў я нават, што за выйгрышам прыеду да яго ў Беласток пазней.

Малады камерсант пайшоў па вёсцы. У суседзяў сказаў, што я выйграў сокавыцiскалку і люстэрэзку. Суседка таксама выйграла. Яна дарма атрымала электрычны прас і нажы, а за бесправадны чайнік заплаціла 210 зл. Такіх шчаслівчыкаў, якія заплацілі дзялку па 210 зл. у нашай вёсцы аказалася вельмі многа. Вось якімі вынаходлівымі сталі цяпер гандляры! Так умеюць падысці вясковых людзей, што тыя купляюць не заўсёды якасныя тавары.

**Лукаш Мікалаюк**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Будзем заўсёды разам!

Барыс быў закаханы ў Райку. Проста — свету за ёю не бачыў! Усе чакалі шлюбу на днях, а тут — на табе!

На танцах пасварыліся. Барыс меў злосць за тое, што Райка ўсміхнулася да Мірона. Дзяўчына адказала, што з яе кавалера — вялікі эгаіст, і жыць з ім не думае, бо калі муж зайздросны — жыцця жонцы няма.

Некалькі разоў Барыс ездзіў да Райкі, прасіў даравацъ, але дзяўчына рашыла маўчаць і трываць у сваім рашэнні. На танцы не хадзіла. Лічыла, што лепш астацца ў адзіноцтве, чым пачынаць справу з якім-небудзь хлопцам, бо ўсе яны на адзін капыл. На танцах цяпер адны толькі смургелі, не пара Райцы, дваццацітрохгадовай дзеўцы. Не маглі яе пераканаць ні бацькі, ні сяброўкі.

Барыс хутка перастаў сумаваць, кінуў вокам на Анелю. Дзяўчына закахалася ў файнага хлопца — нічога ж яму не бракавала, і аўто меў, і сам прыгожы. Барыс гаварыў салодкія словы цяпер Анелі, у іх сапраўднасці абсалютна пераканаены:

— Будзем заўсёды разам. Будзеш маёй да смерці.

Не засталося нічога іншага, як ісці пад вянец. Бацькі пачалі рыхтавацца да вяселля. За вясельным сталом Барыс вельмі ж „скакаў" над Анеляй, і ўсе меркавалі, што на лепшага мужа трапіць яна не магла. Калі праз тры месяцы пакінуў маладую жонку, вядома, здзівіў усіх — так скача на вяселлі, абцалоўвае, а жыць не ўмее! А чыя ў гэтым віна, хто яго ведае.

Барыс выехаў у Сілезію. Не памаглі просьбы бацькоў, каб вяртаўся, бо Анеля цяжарная. Адказаў у лісце, што будзе плаціць аліменты, але жыць з ёю не хоча. Там знайшоў іншую жанчыну. Калі прыйшло паведамленне з суда пра разводную справу, Анеля нават і не здзівілася. Развод дала.

Новая Барысава жонка была капрызная. Не мела ахвоты працаваць, але ад мужа дамагалася як найбольш грошай. Знайшоў сабе пару адпаведную — загрызала яго падазронасцю і дзікай зайздрасцю. Калі Берта нарадзіла сына, пачала засыпаць лістамі Барысавых бацькоў — прысылайце падарункі і грошы, малому трэба ўсё найлепшае! Але нішто не магло яе задаволіць, і пачыналіся сваркі аж да крыві. Берта перад суседзямі плакала, што муж такі кепскі, грошай не дае, а тое верашчанне, якое яны дзень у дзень ды ноч у ноч чуюць, гэта яе крыкі ад пабояў. І малога гэты кацапіска б'е, не шкадуе, такі дэгенерат!

Барыс схуднеў, счарнеў на твары. Не мог спаць па начах. Лекар сцвердзіў неўроз і прапанаваў выехаць на нейкі час у іншае месца, памяняць клімат. Барыс узяў на працы водпуск і паехаў да бацькоў, з якімі жыла ягоная былая жонка з дачкой Эмількай.

— Вось пагляздзі — гэта твая дачка, якой ты ніколі не бачыў, — Анеля паказала прыгожую, падобную да бацькі як дзве кроплі вады дзяўчынку. — Ужо тры гады я яе гадую разам з тваімі бацькамі. Здаецца, не так даўно быў наш шлюб...

Барыс хацеў узяць на рукі малую, прытуліць яе да сябе, але тая спалохалася панурага дзядзькі, які працягнуў да яе рукі, закрычала: „Мама! Я не хачу!.."

Барыс заплакаў:

— Даруй мне, Анеля. Я тады хацеў парваць з усім вясковым, шукаць лепшага жыцця...

— То нашто ж ты прысягаў, што будзем разам аж да смерці?

— Не ведаю...

Барыс, хоць быў галодны, з цяжкасцю з'еў міску свайго ўлюбёнага фасолевага супу. Лёг адпачыць.

Не прачнуўся. У сне перастала біць сэрца. На пахаванні не было ні Анелі з дачкой, ні Берты з сынам. Найбольш перажывалі Барысавы маці з бацькам вядома, які палец ні рэж, кожны баліць.

**АЎРОРА**

# Хто вінаваты?

Выхаванне нашай моладзі зноў стала гарачай тэмай па скандальных здарэннях у Слупску і Катавіцах. Адны ў дрэнным выхаванні абвінавачваюць бацькоў, другія — настаўнікаў, трэція — улады. Удзельнікі тэлевізійнай дыскусіі так і не дайшлі да вываду, хто вінаваты і запрасілі слухачоў слухаць іх вывады ў наступнай перадачы.

Мне здаецца, што ўсе мы з'яўляемся вінаватымі, толькі адны менш, а другія больш, а асаблівая адказнасць на нашых уладах. Моладзь наглядае за лідэрамі пасобных палітычных партый, бачыць, як яны дзяруцца паміж сабою за пасты ваяводаў і іх намеснікаў ды кіраўнікоў многіх важнейшых устаноў, як кожны пхае туды сваіх паплечнікаў. Моладзі палітыкі адводзяць мала ўвагі і яна здадзеная на Божую волю або саміх сябе і менавіта таму яна паказвае ўладам сваю незадаволенасць.

Калі хуліган вырывае лаўку ў катавіцкім „Сподку" і кідае ёю ў людзей, ён не думае ці заб'е чалавека, толькі абараняецца ад падобных сабе асобеняў. Калі маладыя хуліганы нішчаць ды падпальваюць паліцыйныя машыны, яны не глядзяць ці сядзіць у ёй чалавек. Іх мэтай тады з'яўляецца прага знішчэння, нанясення страт дзяржаве.

А калі паліцыянт ударыць хулігана палкай не там дзе трэба, хаця і ў сваёй абароне, зараз за яго бярэцца пракурор, каб выкінуць са службы ды пасадзіць. Ці ж паліцыянту трэба гладзіць хулігана па галоўцы за яго выбрыкі?

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Перапіскі

Недзе ў шасцідзесятыя гады пазнаёміўся я праз „Ніву" з нейкім Бухловым з БССР. Ніколі я з ім не бачыўся, толькі мы перапісваліся. Аформіў я яму гадавую падпіску на „Ніву" і на ягоную просьбу выслаў яму пакет новых польскіх кніжак, а ў іх ліку вялікі польска-нямецкі слоўнік (ён вывучаў нямецкую мову). Узамен за кнігі ад мяне ён прыслаў мне свае кнігі. Калі я адкрыў пакет ад яго, то аж за галаву схапіўся — былі там тоненькія, пратухлыя, бязвартасныя савецкія кнігі, якіх ён, відаць, хацеў пазбыцца. Я парваў з ім сувязь, каця ён яшчэ доўга дапытваўся ў мяне, што здарылася. Рашыў я тады не перапісвацца больш з саветамі, бо і ў нас тады не бракавала іхніх танных кніжак. Аднак д'ябал спакусіў мяне яшчэ раз і я зноў наладзіў лістовую сувязь з журналістам нейкай раённай газеткі Капчыкам. Пасля абмену некалькімі пісьмамі папрасіў мяне і ён, каб даслаць яму некалькі польскіх кніг. На гэты раз я паслаў яму старэйшыя кнігі, а ў іх ліку і кнігу „Pan Tadeusz" Адама Міцкевіча, пра якую ён мяне прасіў; гэтая кніга патрабавала пераплёту. За гэты пакет атрымаў я ад яго „падзяку", у якой аблаяў ён мяне з галавы да ног найгоршымі словамі за тое, што паслаў яму не новыя, а старыя кнігі, якія нават непрыстойна трымаць на паліцы; сам жа ён мне нічога не прыслаў. З тае пары не вяду я ўжо перапісак з жыхарамі Беларусі, бо поўна там ілгуноў. Сустракаюцца аднак і сумленныя людзі, бо ў аднаго адстаўнога палкоўніка, які гандляваў у нас палівам, папрасіў я адну кнігу і ён мне яе прывёз і нядорага ўзяў. З таго часу мы — як сваякі і блізкія.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# „Навучыўся радавацца чужой радасці..."

## *Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*

***(працяг; пачатак у 46 н-ры за 1997 год)***

Прага, 8.9.1972.

Дарагі Максіме!

Набліжаецца дзень, калі Табе будуць прыносіць віншавальныя тэлеграмы, пісьмы, кветкі... Не кожны дажывае да 60! І не кожнаму ўдаецца столькі добрага зрабіць для Радзімы, колькі зрабіў Ты, дарагі дружа. Прымі ж і ад мяне найлепшыя пажаданні. Здароўя, поспехаў у працы, сапраўднага шчасця Табе і Тваім блізкім! Жыві і працуй доўга на карысць Радзіме і на радасць усім добрым людзям!

Учора тут дырыгаваў Чэшскаю філармоніяй Леапольд Стакоўскі. Яму 90 год! Выходзіць на кастылях! Але што ён робіць з аркестрам і слухачамі!.. Мой канцэрт у Лугачовіцах 31 ліпеня прайшоў надзвычай паспяхова. Спяваў амаль 2 гадзіны без перапынку. 25 песень у 8 мовах.

Адзначыў і 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. Зрабіў вольны пераклад на чэшскую мову яго верша „Ты прыйдзі" і заспяваў у арыгінале раманс М. Чуркіна, напісаны на гэты вечар.

Слухачоў было больш, чым месц у зале (як калісьці ў зале Снядэцкіх у Вільні). І не толькі ніхто не адыйшоў да канца канцэрту, але яшчэ патрабавалі „біс".

Хай гэты канцэрт будзе Табе, хто любіць нашу песню, маім „падарункам".

Канчаю, бо шкада твайго часу. Шлю шчырыя прывітанні Табе і Тваім блізкім.

Моцна абдымаю
Твой М. Забэйда.

PS. Ці атрымаў мой ліст ад 24.06. г.г.?

* * *

Прага, 28.10.1972.

„Хай будзе святло"

Дарагі Максіме! Ці ж можна Цябе асуджаць, ведаючы, як Цябе завальваюць не толькі пісьмамі, але і працай вялікай, — што не адразу адказваеш на пісьмы?! І хоць заўсёды рады Тваім радкам, Тваім добрым словам, сам стараюся пісаць Табе менш. Вельмі засмуціла мяне вестка аб Тваёй хваробе. Веру, што дактары зробяць усё, каб вярнуць Табе здароўе. Ты ж яшчэ малады! Горш са мною. На левай назе пад каленам, ужо даўжэйшы час расце нейкі гуз. Дактары не ведаюць яшчэ пра „паходжання". Магчыма, трэба будзе рабіць аперацыю. Апрача таго, у маладосці, калі насіў у вагоны некалькіпудовыя мяшкі, нажыў кілу, якая цяпер пачынае „пагражаць". Але я пакуль што рыхтуюся да выступлення ў лістападзе — месяцы Чэхаславацка-Савецкай дружбы. Хачу да канца свайго жыцця даваць людзям радасць. Сумна, што на Пражскім радыё, у 68 годзе, сцерлі ўсе мае найгранні. А колькі там было працы ўложана! Колькі песень! Шастаковіч, Кабалеўскі, Тапорын, Хачатуран, Туранкоў... А колькі народных (розных народаў), спяваных у арыгінале! Як карова языком злізала...

Плітку пастараюся прысланць. Чакаю „Хай будзе святло". Нізка ўсім Вам кланяюся, абдымаю і жадаю здароўя, здароўя і здароўя! Спадзяюся, што яшчэ сустрэнемся і заспяваем. Не забывай, дарагі дружа!

Твой М. Забэйда.

* * *

Прага, 28.9.73.

Дарагі Максіме!

Атрымаў твае мілыя радкі. Пытаешся, ці маю твой зборнік „Хай будзе святло". Відаць, мой ліст да Цябе не дайшоў, бо 10.01.1973 я Табе пісаў:

„Дарагі Максіме!

Ужо два дні хаджу з Тваімі думкамі, бачу твае малюнкі-вобразы, абагачаю Тваім творчым, жывым словам родную мову: чытаю Тваю кніжку „Хай будзе святло". Чытаю з вялікім зацікаўленнем і роздумам. Вялікае Табе дзякуй як за Тваю асаблівую, мне блізкую паэзію, так і за дарагі мне надпіс на кніжцы, вельмі прыгожа выданай: „...Бо без Вас, мае сябры, дружбакі мае, не жыццё на гэтым свеце, валацугу, мне". „...Добры кажух са спагады, толькі сцюдзёна ў ім, Добры агонь на чужыне, толькі грызе вочы дым".

Пазнаеш свае радкі?!.

Тут хадзілі чуткі, што ты збіраўся адведаць Прагу ў снежні м.г., цяпер гавораць, што прыедзеш у студзені, дык, можа, яшчэ пабачымся. Буду вельмі рады. Пліткі з нашымі песнямі для Цябе дастаў, але поштай не пасылаў, бо спадзяваўся, што Ты прыедзеш. І цяпер чакаю.

На Навагоднія святы моцна хварэў. Кожныя паўгадзіны і ў дзень і ў ночы мусіў бегаць туды, куды і кароль пяшком ходзіць. Гарачка 39°, пульс — 110—120 і няроўны. Думаў, прыйшоў канец, але, здаецца, яшчэ трохі пажыву. Хоць моцна аслабеў, ужо пачынае патрохі прыходзіць да нармальнага стану, пачынаю даваць лекцыі спеву. Ходзяць да мяне людзі, якія ўжо скончылі кансерваторыю і самі даюць лекцыі спеву ў музычных школах.

Можа, калі-небудзь парадуе маіх суайчыннікаў тое, што мае вучні пачынаюць спяваць у канцэртах і нашы песні, якія карыстаюцца поспехам.

І сам я атрымаў ад Чэшскага музычнага фонду ўзнагароду-прэмію „за сістэматычнае і каштоўнае (мастацкае) выкананне песень сучасных чэшскіх кампазытараў за мінулы сезон 1971—1972 года". Гэта ўжо трынаццатая ўзнагарода-прэмія (і, мусіць, апошняя). Калі ўзяць пад увагу, што жыву 73 год, то трэба прызнаць, што з'ява гэта рэдкая і не толькі сярод беларусаў.

Не буду Табе больш пісаць: шкада Твайго часу. Кончу словамі з Твайго верша:

„... Нат калі я падарвуся —
Не спісвайце з уліку.
Песня мая далей будзе
Шляхі пракладаць
Да любві,
Дружбы,
Міру".

Шлю Табе, Тваім блізкім і супольным знаёмым самыя лепшыя пажаданні на 1973 год.

Моцна абдымаю.
З любоўю Твой
М. Забэйда".

Перапісаў я гэтае пісьмо з чарнавіка, які ў мяне захаваўся прыпадкам, бо хацеў, каб Ты ведаў, што „Хай будзе святло" не толькі чытаў (з удзячнасцю Табе!), але і цяпер, калі агортвае сум, звяртаюся да Твайго зборніка.

Вельмі рады, што часамі слухаеце мае песні. Значыць, не дарма жыў на свеце? Мо калі прыедзеш у Прагу, сустрэнемся, абдымемся, пагаворым. Мая маці казала: „Скрыпучае дзерава доўга скрыпіць". Дык хай будзе „да пабачэння". Чакаю „Полымя" з Тваімі вершамі! Не забывай. Нізкі паклон усім, хто яшчэ памятае. Абдымаю.

Твой М. Забэйда.

***(працяг будзе)***



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Парнасік

### Дзіўная зіма

Гэтая зіма дзіўная і смешная,
Цалкам не снежная.
Мо людзі пра такую і марылі...
Толькі на пачатку снежня
марозы ўдарылі,
А цяпер у студзені амаль вясна.
І тут справа не вельмі ясна:
Ці гэта *выбрык* натуры
І дачакаемся снегу, марозу і буры?
Думаю што так,
Хаця я не прарок: нечага тут брак.
На ўсё ёсць пара года,
А капрызная *пагода*
Да дабра не давядзе
І можа даць ход бядзе,
Бо пачнуць расці расліны, дрэвы...
І гэтым разам „на лева”,
А пасля мароз пачне лютаваць
І ўсё па-свойму парадкаваць.
Плён можа быць мізэрны.
Трэба быць Богу верным,
Бо гэта Ён кіруе надвор'ем
На сенажацях і полі.
Цяпер у нас зіма французская —
Далёка не руская.
Для нас пакуль добра і прыемна,
Бо цёпла жывёле і здароўю
не *ўрэдна.*
Многа менш ідзе апалу
І можам сказаць: Слава Богу
і хвала!
Толькі адно *але* нас трывожыць:
Як нам у такое надвор'е крочыць?
Каб на Вялікдзень не прыйшлося
санямі ехаць
І ў валёнках па дровы бегаць.
А мо будзе як найлепш —
гэтага ўсім жадаю
І за такую зіму Бога ад сэрца
праслаўляю.
Не дапусціць Ён каб мы загінулі,
Але каб па сабе след пакінулі.

**Мікалай Панфілюк**

### Вечнасць

Усюды вечнасць ходзіць.
З нябёс мільгае святло.
Нараджэнне і смерць
Сплеценыя адвечна.
Радасць і сум
Прамінаюць, яднаюцца.
Выпадковасць ці план
Ёсць асновай жыцця?

**Аўрора**

### Адзін

Калі адзін астанешся
Ў сваёй роднай хаце,
Да каго азвешся?
Каму што сказаці?
Сядзеш пад аконцам,
На свет падзівіцца.
Грэешся на сонцы,
А ў сэрцы журыцца.
Так сядзіш у цішы,
Над усім разважаеш,
Ці ты ўжо нажыўся,
Што шчасця не маеш?
Так плывуць мінуты,
Аж сам скалыхнешся.
Ці крышку здрамнуў ты,
Ці табе здаецца?
Сумуеш з тугою,
Над сваёю доляй,
Каб не быць ніколі
Круглым сіратою.
Дзеці разышліся
Па ўсёй дзяржаве.
У іх свае сем'і
І свой клопат маюць.
Хай жывуць шчасліва,
Таго ім жадаю,
Ды не забываюць
Маю хату скраю.
Словам абмяніцца,
Пра клопат сказаць,
Як там ім жывецца,
Ліст каб напісаць.
Вельмі таго просяць
Вашы бацька й маці.

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР – НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне! У апошні час мне часта паўтараюцца падобныя сны. Усё сніцца вышыня, з якой я мушу сысці.

На гэты раз я ў школе (я ўжо дарослая). У сне я таксама дарослая, але знаходжуся сярод дзяцей.

Сяджу я ў гімнастычнай зале на нейкай высачэзнай скрынцы, з якой трэба саскочыць. Па чарзе скачуць з яе ўсе дзеці. Яны, аднак, скачуць парамі (найчасцей гэта хлопчык і дзяўчынка), трымаючыся за рукі. Усім гэта даволі лёгка ўдаецца.

Падыходзіць мая чарга. Побач са мною сядзіць хлопчык, з якім я павінна скакаць, але ён разам са мной саскочыць не хоча. Я баюся рабіць гэта адна. Скрынка, на якой мы сядзім, крактаецца, калыхаецца. Я пачынаю саромець таго хлапчука за тое, што ён не хоча скакаць са мною.

Але вось я ўжо ўнізе (неяк усё ж саскочыла), у далоні трымаю нейкія таблеткі. Вельмі баюся, што чакае мяне нешта нядобрае.

**Яня**

Яня! Не абавязкова нядобрае цябе чакае, а нават, думаю, ты вырашыш у сваю карысць нейкія праблемы. Найбольш істотны момант тваіго сну гэта паданне з вышыні, а гэта якраз абазначала б для цябе пашану і павышэнне па службе. Ты, аднак, з цяжкасцю саскакваеш з гэтай скрынкі, бо хлапчук, які сядзіць побач, табе дапамагчы ў гэтым не хоча. Яшчэ горш, што скрынка калыхаецца, і гэта б абазначала, што справа твая няпэўная і будуць крутыя павароты, а таксама вынікнуць непрыемныя для цябе факты, аб чым сведчаць тыя таблеткі, якія ты трымала ў руцэ.

Дае надзею на добры ход падзей у тваім жыцці тое, што ўсё ж такі, нягледзячы на неспрыяльныя акалічнасці, табе ўдалося саскочыць уніз з гэтай нестабільнай скрынкі, ды тое, што дзея сну адбывалася ў школе, якая заўсёды прадвяшчае поспех, радасць у сям'і.

**Астрон**

# Пенсіянерская доля

Калі на пачатку гэтага года ўрад аб'явіў, што павысяцца цэны ацяплення і электраэнергіі, гэта абазначае, што ўсё, нават харчовыя тавары таксама падымуцца на некалькі працэнтаў. Цяпер уся вытворчасць абапіраецца на вугалю і электраэнергіі, і, вядома, прадпрыемствы (ці то дзяржаўныя, ці прыватныя) не захочуць мець страт. А гэта адаб'ецца на кліентах, значыць, на ўсіх нас.

І для мяне, пенсіянера, даражэйшыя тавары таксама балюча ўдарацб па кашальку. Аб гэтым нашы шаноўныя ўлады падумалі і павялічылі мне пенсію на 8 злотаў і 79 грошаў. Гэта абазначае столькі, што для сабакі муха, бо што я магу купіць за гэты грошы!

Хто дастае вялікую пенсію, таму павысілі намнога больш. Найгоршая бяда спасцігла сялян-пенсіянераў, бо ім ніхто не дасць прыстойнай кампенсацыі, і іх цяжкім матэрыяльным становішчам ніхто не цікавіцца.

Сяляне-пенсіянеры тады ўладзе патрэбны, калі набліжаюцца выбары. Тады абяцаюць ім усё, як кажуць, залатыя горы, каб толькі прагаласаваць за іх, а па выбарах адразу пра іх забываюць. Па вёсках (і землеробам, і пенсіянерам) вельмі цяжка жылося, а цяпер будзе намнога цяжэй. Хоць ты жывым лезь у зямлю. Аднак пенсіянерам трэба памятаць, што неўзабаве зноў будзем выбіраць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 3. даўганогая трапічная птушка з доўгаю крывою дзюбай, 8. адзін з галоўных цэнтраў шумерскай цывілізацыі ў III стагоддзі да н.э., 9. стан аслаблення дзейнасці, 10. Людавіт, славацкі асветнік і адраджэнскі дзеяч (1815—58), 11. горад на 36,17° паўночнай шыраты і 37,25° усходняй даўгаты, 13. свяшчэнная кніга зараастрызма, 15. Вук, сербскі мовазнавец і этнограф (1787—1864), 16. раптоўны моцны парыў ветру, 20. паглыбленне ў зямлі для закладкі фундамента, 22. горад на 53,25° паўночнай шыраты і 63,67° усходняй даўгаты, 23. Алесь, беларускі паэт (1904—37), 27. вывучае законы руху цел у залежнасці ад прыкладзеных да іх сіл, 29. японскае нацыянальнае адзенне, 30. адміністрацыйная адзінка ў Манголіі, 31. яго зерне ідзе на выпечку хлеба, 32. з імі перапісваўся св. Павел (мн. лік), 33. горад на 49,83° паўночнай шыраты і 24,00° усходняй даўгаты, 34. прыстасаванне для зачэрпвання.

**Вертыкальна:** 1. сталіца Сірыі, 2. пакалечаны чалавек, 4. наёмніца ў кулака, 5. горад на 55,40° паўночнай шыраты і 30,74° усходняй даўгаты, 6. невымерная прастора бачная вачамі, 7. горад на 53,40° паўночнай шыраты і 24,60° усходняй даўгаты, 12. жыхар Габрава, 14. паходная амуніцыя салдата, 16. горад на 41,11° паўночнай шыраты і 47,20° усходняй даўгаты (да 1968 г. Нуха), 17. з яго збудаваныя соты, 18. перакрыццё, якое злучае сцены збудавання, 19. тонкая вяроўка, 21. Чынгіс, кіргізскі пісьменнік, аўтар „Джамілі” (нар. у 1928 г.), 24. Аскар, англійскі пісьменнік, аўтар „Партрэта Дарыяна Грэя” (1854—1900), 25. збудаванне для сена, 26. гаспадарчы і культурны цэнтр Італіі, 27. сталіца Сенегала, 28. невялікі нож.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 51 нумара**

**Гарызантальна:** звод, цукат, абарог, хрэн, паліп, тачыла, сарсуэла, сінод, марцыпан, Петручук, страх, Малярыта, барока, аймак, Ржэў, жарало, Жужуй, Кант.

**Вертыкальна:** Рудакі, Шаміссо, Верысіму, Дантэ, парча, пойла, падмурак, „Альцэста”, сапа, нота, упор, Энох, акардэон, тайфун, Авакум, шабаш, молат, ларок.

# Рашаецца праблема

Не ведаю, колькі гадоў трэба было б яшчэ чакаць у Чаромсе на падключэнне тэлефона — тры, пяць? Манапалістычная Telekomunikacja Polska S.A. абяцала мне, што гэта будзе каля 1997 г. Тлумачылі мне, быццам грошай на гэта няма, ды і работнікаў не хапае. (Размова наша адбылася ў 1995 г.). Калі ў мінулым годзе ў Гайнаўцы з'явілася канкурэнтная прыватная тэлефонная фірма, усё ў Telekomunikacji S.A. адмянілася. Знайшліся грошы ды і работнікі.

Як я даведаўся ў Чаромхаўскай пошце, да канца жніўня г.г. будзе праведзена комплексная аўтаматызацыя на Гайнаўшчыне. Значыцца, і мая праблема вырашыцца.

**(ус)**

# Аб'явы

☑ Ад шчырага сэрца дзякую спадарыням Валянціне АРЦЮХ з Белавежы і Веры ДУБЯЗЕ з Чаромхі за дапамогу, якую аказалі яны маёй жонцы падчас яе пабыўкі ў Гайнаўскай бальніцы.

Жадаю ім моцнага здароўя і шчаслівага сямейнага жыцця.

*Мікалай Лук'янюк*

☑ Уласніцкую кватэру 47 м² у Бельску-Падляшскім памяняю на такую самую або большую ў Беластоку. Тэл. 309 706.


# Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1998 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Ніўка

Макатразмы

## Год апалоніка

1998 год сустрэлі макатранцы з двацістымі пачуццямі. Дваістасць выклікалі дзве парныя дзеўяткі, што натапырыліся ў цэнтры новага летазлічэння.

— Цыклопы! — жахнуўся Стахранюк. — Павіслі над намі цыклопы! Гаварыў жа ў Ратным Гара-Гарышчэўскі: „Няважна — будзем беднымі ці багатымі, важна каб былі круглавокімі". Значыць, здзейсніцца...

Змрочную здань, што залунала над энклавам спрабаваў развеяць Паўхранюк. Даследаваўшы дакладна цыклопападобныя знакі ў выяве прышэльца, ён сказаў:

— Калі гэта і цыклопы, дык не тыя пачвары з мінулай эпохі. Хутчэй за ўсё, яны з падатраду беспазваночных. Маюць адно няпарнае лабавое вока. Жывуць у вадзе. Хоць і драпежнікі, нам шкоды не зробяць.

Але страх, пасеяны Стахранюком не адступаў ад макатранцаў. Асабліва пасля таго, як Хранюк простым матэматычным дзеяннем спалучыў вядучую адзінку з замыкаючай васьмёркай. Атрымалася трывожнае

999

Цыклопы злучаюцца. Хана! Толькі Хрэн, ветэран нязбыўнай мары, не панікаваў. Ён намагаўся ўнікнуць у сэнс загадкавых знакаў. Урэшце расслабіўся, крэкнуў і метадам Хранюка вывеў гістарычнае ўраўненне:

1998 = 1188 = 99 = 18 = 9

Пачвары выразна адступілі, рассеяліся. Мала таго, у хвастатай дзевятцы Хрэн убачыў тыповага жыхара неглыбокіх вадаёмаў, лічынку сажалкавай жабы — апалоніка.

І, асепленыя нечаканым адкрыццём, насельнікі энклава паверылі ў трываласць Макатры, і 1998 год аб'явілі годам апалоніка.

**Сідар Макацёр**

Фрашкі пра нашых

### Літаратура ў тэорыі

Добра было б *буквы* ведаць,
Чым расказваць пра суседа,
І самому ўмець штосьці напісаць,
Пакуль, пане, інтэрпрэтаваць.
Сярод крытыкаў ёсць такія цацы,
Якім раней не давалі друкавацца.
Калі б умелі, вось дык пісалі б!
Абы за гэта грошы давалі.

**Вандал Арлянскі**




— О-го, ліцэратура! Яе без „Чыжоўскай" не разбярош. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Ізматыўная нармалёвасць

„Ізматыўную нармалёвасць" напісаў у 1897 годзе ў Ратэрдаме Чык Ван Він. Прозвішча аўтара, выхаванага ва ўмовах моўнага білінгвізму, даведнікі часцей падаюць у лацінскай форме — Chick Van Win. Ван Він пасля выхаду друкам „Ізматыўнай нармалёвасці" стаў самым характэрным аўтарам эпохі. На яго тэму з'явілася вельмі шмат як публіцыстычнага, так і навуковадаследчыцкага матэрыялу. Як вядома, нявысветленых момантаў у жыцці Ван Віна не засталося — гэтае разважанне не скажа тут новага слова.

Чалавецтва абавязана Ван Віну ў вынаходстве ізмізму — крытычна-літаратурнай манеры і філасофскага накірунку адначасна. У аснову ізмізму закладзены просты ды геніяльны прынцып — адсутнасць думкі спаганяецца ўтварэннем адпаведнага для дадзенага браку кантэксту ізму, які гэтай жа несэнсоўнасці прыдае звышсэнс.

І так, уласцівасць чалавека, які носіць акуляры, тлумачыцца ў кнізе як акультызм. Уласцівасць дастойнага чалавека, які дадаткова займае высокую пасаду Ван Він называе бергсанізмам (берг + сан). А вось уласцівасць нявтелівага чалавека, набздычанага, неабавязкова высокай пасады, схільнага пакідаць кампанію ў самы цікавы момант — Ван Він акрэслівае словам хайдэхерызм (хай + ідзе + нахер). Аўтарам вельмі ж цікавага ізму з'яўляецца сучасны Ван Віну білінгвіст Зак Ван Рат (даведнікавая форма: Zack Van Raat). Паводле Ван Рата, што і зафіксавана ў „Ізматыўнай нармалёвасці", анальфабэтызм абазначае чалавечую здольнасць запіхаць азбуку ў сваю або чужую дупу.

Сучасная Ван Віну даследчыца ў рэцэнзіі на „Ізматыўную нармалёвасць" пайшла яшчэ далей — яна, на папулярны ў тую эпоху лад, спрабавала ў чарговы раз ізмаваць ізмізм. Але сваю жыццяздольнасць ізмізм, як вядома, страціў у момант народзін — ён ізмаваў сам сябе, даючы канчаткова завершаны ізм. Спроба даследчыцы зафіксавана ў „Агульнай Энцыклапедыі Ізмазнаўства" як „ізмізматычнасць".

У эпоху Ван Віна побач ізмізму развівалася яшчэ (на прынцыпе антаганізму да яго) прысутнасць здаравістычнай сэнсавістычнасці. Гэтае кволенькае адгалінаванне цалкам не ўспрынялося навукоўцамі і не датрывала да нашага наскрозь раз'ізмаванага часу.

**Сцяпан Абух**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Было гэта ў першыя гады Народнай Польшчы, калі былі ў модзе розныя абавязацельствы. І так, выкладчыкі аднаго з універсітэтаў забавязаліся падчас экзаменацыйнай сесіі наведаць хворых студэнтаў, каб праэкзаменаваць іх. Аднаго дня сустрэліся два прафесары:

— Ці шаноўны пан прафесар быў у якога студэнта дома, каб праверыць яго веды?

— Быў.

— І як справіўся студэнт з экзаменам?

— Праваліў, і загадаў мне прыйсці зноў праз два тыдні.

* * *

Шэф звяртаецца да сваёй сакратаркі:

— Вас, пані Зося, не заменіць ніякая машына...

— Няўжо! Чаму?

— Бо ніхто яшчэ не выдумаў такое машыны, якая б нічога не рабіла.

* * *

Гутарка дырэктара з жонкаю:

— Я дачулася, што маеш новую сакратарку... Маладая?

— Дваццаць гадоў.

— Працавітая?

— Мяркую, што так.

— Прыгожая?

— Нічога сабе...

— А як апранаецца?

— Хуценька.

* * *

Прыгожая бландзінка ўваходзіць у прыёмную дырэктара і звяртаецца да прыгожай брунеткі, што сядзіць за сталом:

— Я — жонка дырэктара, а вы — хіба, яго новая сакратарка?

— Так; працую тут месяц...

— Тады раю вам не паўтарыць тае памылкі, якую дапусціла я.

— А што вы зрабілі?

— Выйшла за дырэктара замуж.

* * *

Сакратарка дырэктару:

— Або будзеце мне плаціць больш, або пачну пісаць мемуары!..

* * *

Маці папракае дарастаючую дачку:

— У тваім узросце я ўжо пісала дзённікі...

— Гэта ўстарэлы прыём: я завяла картатэку.

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка! Ужо дзесяць гадоў мы з мужам неяк пражылі, і нават здавалася мне, што ён мяне кахае, хаця гыркаў няраз так, што, думала, з хаты ўцяку. Ну, і чаго ты гыркаеш? — дакарала я часам яго. Не наварыла я табе, ці ў бруднай кашулі ходзіш?!

Тэму пасцелі ў нашых сварках мы не краналі, бо тут усё было чыста і ясна. У ложку ён гаварыў, як салоўка, так прыемна было яго слухаць. Але што з таго, калі любіў паказаць пры людзях, што мужык тут мужыкам. Паесці штосьць ёсць? — гыр-гыр... Крыжаванкі купіла? — ізноў гыр-гыр. А мне крыўдна.

Ну, каб быў сказаў штось, як чалавек, прымільна, цёпла, а то нават імя майго не называе. Дальбог так, быццам была я нейкай абстрактнай пастаццю, звяртаўся безасабова.

Што там многа гаварыць, у нашай глухой мясціне амаль усе мужыкі так гыркаюць на жонак. Мала каторая агрызнецца. Прывыклі ўсе. За работай свету не бачаць, няма калі займацца тымі фобіямі.

А тут у ліпені прыехалі да нас летнікі. Трэба ж з нечага жыць! І карміла я іх, і паіла, а ўсё што лепшанькае давала. Большыя ягадкі — ім, горшыя — сваім дзецям. Адно каб дагадзіць.

Яны — задаволеныя, аж расплываюцца. А мілыя якія! Мужык і жонка, ды двое дзяцей. Шчабечуць. Адразу, як прыехалі, я думала, мужык жонку на руках будзе насіць. Такі быў ласкавы чалавек. То пагладзіць яе па шчочцы, то пляснe па жопцы, то ў шыйку пацалуе — абы дакрануцца да яе.

Мяне злосць узяла. Вунь людзі дык маюць шчасце, а за што мой на мяне гыркае... Так узлавалася я, што нават дазволіла сваім дзеткам рваць агрэст ды парэчкі з лепшых кустоў, з тых, што для летнікаў адно былі зарэзерваваны.

Улезла ў маё нутро такая дзікая зайздрасць, якой я ў сваім жыцці яшчэ не перажывала. Крыўда душыла мяне, што вось людзі жывуць, як людзі, а ў нас... шкада слоў.

Тым часам у лесе паявіліся летнія грыбы. О-о-о! — ажывіліся нашы госці. Грыбкі! Але пані збіраць не любіла. Любіла адно есці. Затое ён адразу загарэўся і пытаецца: ведаеце грыбныя месцы?

А чом жа ж не ведаем, нам ніхто грыбоў у хату не прыносіць, ды і на рынку не купляем. Завядзеце? — ён кінуўся ледзь не з абдымкамі да мяне. Завядзем, чом не, грыбнога баршчу наварым.

Муж паехаў у горад на працу, а мы з госцем пайшлі ў грыбы. Яго жонка пільнавала сваіх і нашых дзяцей.

У лесе напалі мы на рыжыкі. Я думала, што мой напарнік выдзярэ ўвесь мох у лесе. Грыбкі былі яшчэ такія мізэрныя, ледзь павылазілі, а ён няшчадна вырываў гэтыя малюсенькія галоўкі рыжыкаў — на паўпазногця мізінца — і кідаў іх у кошык з зямлёю.

Ой, не шкада вам так? — не вытрымала я. Жыцця шкада, па-філасофску адрэзаў ён. Не вырвем мы — вырвуць іншыя. Ну, а калі ўжо ўсё паблізу было больш-менш выдзерта, госць аб'явіў адпачынак. Мы прыселі на паваленым дрэве, а ён, як ні ў чым не бывала, запусціў сваю брудную, ледзь абцертую мокрым мохам руку ў мой бюстгальтар.

Ну, не, даражэнькі. У гэтыя цацкі то мы з табой гуляць не будзем! Я з агідаю адкінула яго руку са сваіх грудзей. А ён — з пацалункамі — па твары, па шыі, а пасля і ў губы. Пакінь, дальбог пакоціць, перапужалася я. Вырвалася неяк з яго лап, пазашпіляла тое, што ўжо было расшпілена, і хуткім крокам рушыла дахаты, а ён — ледзь не бягом за мною, бо сам напэўна адтуль бы не выйшаў.

Памеркавалі мы з мужам, памеркавалі: усё даражэе, працы пры летніках шмат — мала ўсё гэта і аплаціцца. На будучы год не возьмем нікога.

**Схолька**

Ах, Схолька! Бачыш, мо і лепш, каб мужык гыркаў, як сабака, удзень, а быў салоўкам уначы, чым мяўкаў бы жонцы і іншым — аднолькава, не шкадуючы.

**Сэрцайка**

PS. А мо ён лічыў патрэбным падзякаваць табе за тое, што завяла ты яго ў грыбное месца...

**С.**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014